№ 8 (702) 23 лютага 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Лукашэнка пагражае арміяй. Але каму?**

Старонка 3

**Раскол у наменклатуры**

Старонка 3



**18-гадовы студэнт памёр у метро**

Старонка 13

Тэндэнцыі

## Макей і нататнікі Беразоўскага

У Маскве абшукалі офіс малявядомай кампаніі. Знайшлі: карціны Пікаса і Рэмбранта, падпольнае казіно, пашпарт Рыбкіна, нататнік Беразоўскага. Крыжа Ефрасінні Полацкай і Янтарнага пакоя не знайшлі. Пытанне: чаму ў маскоўскіх нататніках Беразоўскага згадваецца Макей? **Старонка 9.**

### У НУМАРЫ



«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Наста Палажанка: Я ўжо ведаю, што такое ШОС

Інтэрв'ю пасля вызвалення — **старонка 6.**



АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

**Вызваленні і прысуды**

• Алесь Міхалевіч: Не маю права расказваць. **Старонка 7.**

• Чатыры гады строгага рэжыму. Першы прысуд, каб застрашыць тых, хто ў турме. **Старонка 8.**

• Суддзі зладзілі абструкцыю ў сацыяльных сетках. Яна закрыла доступ да сваіх старонак. **Старонка 8.**

• Сафія Шастаковіч: «Мы, немаладыя людзі, хочам, каб Беларусь была свабоднай». У свае 72 гады яна выйшла на маніфестацыю. **Старонка 5.**

## «Хай задушацца»

Грамадзяне заплацілі за «шкоду, нанесеную Дому ўрада». **Старонка 6.**

# Бензін даражэе на 12%?

У інтэрнэце пайшла інфармацыя пра будучае падаражэнне паліва. Як пішуць, рознічныя цэны могуць вырасці больш чым на 10%:

95 — 3630 (3240*)
92 — 3210 (2870*)
80 — 2520 (2250*)
ДТ — 2890 (2580*)

* — актуальныя цэны «Белнафтахіма».

Павышэнне цэнаў можа адбыцца да канца лютага.

Прэс-сакратар канцэрна «Белнафтахім» Марына Касцючэнка паведаміла «НН», што не валодае афіцыйнай інфармацыяй пра магчымае павышэнне цэнаў.

У пачатку лютага «Белнафтахім» павысіў аптовыя цэны на асобныя віды нафтапрадуктаў. Нагадаем, што апошні раз рознічныя цэны на паліва змяніліся 12 мая 2010 г. Тады рост склаў 6—8%.

**Сямён Печанко**



# Урад пайшоў з працягнутай рукой

## Дзяржава просіць $9 мільярдаў ад Расіі, $2 мільярды ад ЕўрАзЭС і $700 мільёнаў ад Кітая.

16 лютага, пакуль Аляксандр Лукашэнка ўсё яшчэ катаўся ў Сочы, прадстаўнікі беларускага ўрада зрабілі шэраг заяў наконт атрымання новых крэдытаў. За адзін дзень стала вядома пра $11,7 мільярда, якія хоча пазычыць дзяржава з трох крыніцаў.

**Інфляцыя на $3 мільярды за дзесяць дзён?**

Самая вялікая сума — $9 мільярдаў — мае пайсці на будаўніцтва АЭС у Астраўцы. Па-словах віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі, Беларусь просіць крэдыт на 25 год.

«Гэта будзе дзяржаўны крэдыт, хоць нас падштурхоўвалі да камерцыйнага», — адзначыў ён.

**Працяг на старонцы 4.**

# Адвакаты абараняюць уласную незалежнасць

## Мінюст пазбавіў ліцэнзій чатырох адвакатаў, што баранілі палітвязняў.

А старшыню Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Аляксандра Пыльчанку вывеў са складу Кваліфікацыйнай камісіі па пытаннях адвакацкай дзейнасці. Гэта беспрэцэдэнтны наступ на адвакатуру — адзін з апошніх адносна незалежных інстытутаў грамадства.

Адвакатаў Алега Агеева (абараняў Алеся Міхалевіча) і яго маці Таццяну Агееву пакаралі «за грубыя парушэнні парадку афармлення пагадненняў на аказанне юрыдычнай дапамогі, чыненне перашкод ліцэнзуючаму органу ў правядзенні мерапрыемстваў па кантролі ..., якое праявілася ў падаванні непраўдзівых звестак».

Уладзіміра Тоўсціка і Тамару Гараеву (абодва баранілі Ірыну Халіп) пакаралі «за грубыя парушэнні заканадаўства аб ліцэнзаванні, якія выявіліся ў адмове ад аказання юрыдычнай дапамогі Халіп І.У.».

Пыльчанку ж вывелі з камісіі без аніякіх тлумачэнняў.

Мінюст адыгрывае заўважную ролю ў новай кампаніі палітычнага ціску. Сярод праваабаронцаў існуе ўстойлівае перакананне, што дзейны склад Мінюста ўкамплектаваны былымі і дзейнымі супрацоўнікамі спецслужбаў.

Пагрозлівы крок на адрас Пыльчанкі быў здзейснены ў той самы дзень, калі ён выказаў занепакоенасць пазбаўленнем адвакатаў ліцэнзій.

«Увесь кіруючы склад Мінскай гарадской калегіі адвакатаў лічыць наяўную сітуацыю крытычнай, якая рэальна пагражае незалежнасці ... адвакатаў», — заявіў Пыльчанка.

Нагадаем, у канцы снежня Мінюст убачыў «грубыя парушэнні правілаў прафесійнай этыкі» ў дзеяннях «некаторых адвакатаў», якія абараняюць удзельнікаў акцыі 19 снежня. Кіраўніцтву Мінскай калегіі адвакатаў было зроблена прадстаўленне з патрабаваннем прыняць «неадкладныя меры да безумоўнага выканання адвакатамі Правілаў прафесійнай этыкі і заканадаўства». Аднак прэзідыум калегіі «не ўбачыў падстаў» для прымянення якіх-небудзь санкцый у дачыненні да адвакатаў. Не сагнуўся, адным словам.

За санкцыямі праглядаецца жаданне запалохаць, каб адвакаты ўвогуле баяліся палітычных справаў як агню. Каб баяліся брацца за абарону палітвязняў ад пачатку. Тады спецслужбы маглі б навязваць палітвязням (і ў кожным іншым «патрэбным» выпадку) дзяржаўнага, абыякавага ці «патрэбнага» адваката.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», адвакаты і праваабаронцы розных краін Еўропы збіраюць сродкі для тэрміновай дапамогі сваім беларускім калегам.

**Мікола Бугай**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Адвакаты Казак (злева) і Андрэева давялі да канца абарону па справе грамадзян Расіі, арыштаваных 19 снежня.**

## Адвакат Уладзімір Тоўсцік: Гэта памылка

**Уладзімір Тоўсцік:** Як можна гаварыць аб маёй адмове, калі кліент сам піша адмову? Хай вымушана, але ж... Не разбіраўся ніхто, мае тлумачэнні не заслухваліся. Можна было б выклікаць і бацьку майго кліента Уладзіміра Халіпа, які ні прэтэнзій, ні скаргаў да мяне не мае. Аб падставе, па якой Ірына адмовілася ад мяне, яна раскажа сама, калі ў яе можна будзе гэта спытаць.

**«НН»: Уладзімір Халіп патлумачыў адмову дачкі тым, што ўзнікла пагроза пазбаўлення Вас ліцэнзіі за яе абарону.**

**УТ:** Разумееце, я ад яе асабіста гэтага не чуў.

**«НН»: Разам з Вамі без ліцэнзій засталіся яшчэ трое адвакатаў. Чаму выбралі менавіта іх?**

**УТ:** Трое з гэтых адвакатаў працуюць па адной справе. Рабіць вывадаў, з чым гэта звязана, я не буду. У мяне ёсць на гэты конт пункт гледжання, але ён застанецца пры мне.

**«НН»: Ці бывала такое раней?**

**УТ:** Не, ніколі.

**«НН»: Вы падалі скаргу. Спадзеяцеся на перамогу?**

**УТ:** Скаргу разглядае суд Маскоўскага раёна Мінска, які знаходзіцца ў адным будынку з Міністэрствам юстыцыі, непасрэдным кіраўніком таго ж суда. Вось і паглядзім, ці ёсць надзея на справядлівасць і закон.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

• **Дзяржава прымусова знізіць тарыфы пры званках з сеткі на сетку.** Праз год, з 1 лютага 2012-га ўрад Беларусі будзе сам рэгуляваць тарыфы на пропуск трафіку паміж сеткамі сотавых апаратараў. Рашэнне прынятае ў сувязі з тым, што цяпер цэны на сувязь паміж мабільнымі апаратарамі неабгрунтавана завышаныя.

• **Людзі ў чорнай форме расшукваюць Таццяну Елавую.** У кватэру да маці славутай блогеркі ў 8:40 раніцы 22 лютага званілі. Аператыўнікі дапытваліся Таццяны. Яны папярэдзілі, што яе расшукваюць як сведку па крымінальнай справе аб «беспарадках» 19 снежня. Між тым, Таццяна Елавая, вядомая як блогерка zmagarka, некалькі год знаходзіцца за межамі Беларусі і ўдзелу ў акцыі пратэсту не брала.

• **Беларусь закупіць у Расіі дывізіён зенітных ракетных сістэм «Тор-М2Э».** Пра гэта паведаміў міністр абароны Юрый Жадобін. Першая батарэя прыбудзе ў Беларусь у 2011 годзе. Гэта баявы сродак супрацьпаветранай абароны малой дальнасці.

• **Агульнабеларуская дыктоўка ў Мінску прайшла з аншлагам.** Упершыню ў ёй узяў удзел расійскі дыпламат. Усяго пісаць яе сабралася больш за 130 чалавек, у тым ліку пасол Швецыі. Дыктоўка — сімвалічная падзея, каб прыцягнуць увагу да важнасці роднай мовы.

• **Кастусёў напісаў дыктоўку з магілёўцамі.** Імпрэза прайшла 20 лютага ў магілёўскім Палацы культуры. Дыктоўку пісалі па эсэ Максіма Багдановіча «Хто мы такія?». Усяго сёлета будзе тры этапы дыктоўкі. Наступныя два пройдуць 15 і 25 сакавіка. Разам з магілёўцамі дыктоўку пісаў экс-кандыдат на прэзідэнта Рыгор Кастусёў.

• **Маладыя гамельчукі пісалі дыктоўку ў Славянскай бібліятэцы.** У Гомелі Таварыства беларускай мовы сабрала на дыктоўку тры дзясяткі юнакоў.

• **Маразы затрымаюцца.** Першая адліга чакаецца толькі на наступным тыдні. Ад панядзелка яна пачне рухацца з поўдня краіны на поўнач. Наступныя ж сем дзён захаваецца марознае надвор'е. Уначы тэмпературы будуць апускацца да 20—25 градусаў на поўначы, 12—17 градусаў на поўдні.

• **У краіне не засталося ўнутраных пасажырскіх авіярэйсаў.** Авіякампанія «Гомельавія» аб'явіла на сваім сайце пра скасаванне з сённяшняга дня ўсіх рэйсаў. Хто набыў квіткі, можа здаць іх там, дзе набыў, без страты ў грашах.

**СГ**

## ГУМАР З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

### Здзелалі бясплатный праезд, а цяпер назад

**Для школьнікаў здзелалі бясплатный праезд, а цяпер адкацілі назад.** Толькі са школы і да дома. І летам не дзействует.

І развесілі эта в тралейбусах. Эта жэ вапшчэ хто такое прыдумаў. Эта жэ такая дзіскрэдзітацыя. Врэдзіцелі ўсюды. Толька і думают, как бы дзіскрэдзіціраваць Прэзідзента. Еслі бы не он, вабшчэ бы ўжэ не пазвалялі людзям на транспарце ездзіць. Толька уласць імушчым.

А прастому чалавеку была бы в аўтобус не папасць.

**Прастой чэлавек**

## ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

### «Грунвальдская» сустрэча ў Наваполацку

25 лютага суполка «Рубон» Таварыства беларускай мовы запрашае на творчую сустрэчу з вядомымі гісторыкамі: выпускнікам гістфака Полацкага ўніверсітэта, кандыдатам гістарычных навук, навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Андрэем Мацуком і кандыдатам гістарычных навук, рэдактарам ARCHE Алесем Пашкевічам.

Падчас сустрэчы будуць прэзентаваны падрыхтаваныя імі да выдання «грунвальдскі» нумар часопіса ARCHE і кніга Мечысловаса Ючаса «Грунвальдская бітва». Удзельнікі сустрэчы азнаёмяцца і з іншымі шматлікімі часопісамі і гістарычнымі кнігамі. **Сустрэча адбудзецца ў 17.00 у бібліятэцы імя Якуба Коласа ў Наваполацку.**

## Самае чытанае на nn.by за 16 — 22 лютага

- 18-гадовы студэнт БНТУ памёр у метро
- Вольга Комар, што судзіла Парфянкова, адказвае ў Фэйсбуку, скончыла Коласаўскі ліцэй
- Чатыры гады строгага рэжыму. Першы прысуд за Плошчу
- Алесь Міхалевіч: Малодшая дачка мяне не пазнала. А я не пазнаў Беларусь
- За нашу і вашу свабоду — ідзе суд над грамадзянамі Расіі з Плошчы
- Беларусь папрасіла ў Расіі крэдыт 9 мільярдаў даляраў. І аддае МАЗ
- Лукашэнка катаўся на лыжах два тыдні замест аднаго
- Лукашэнка загаварыў пра гомасэксуальнасць, вучыць нямецкага міністра маралі
- Наста Палажанка на свабодзе
- Сын Кадафі: Бацька ў краіне і будзе змагацца да апошняга патрона

## ПРАЦА

### «Наша Ніва» шукае вярстальніка на поўную стаўку

«Наша Ніва» шукае вярстальніка-макетавальніка для працы на поўную стаўку (макетаванне і вёрстка папяровай газеты). Дні найбольшай загрузкі — панядзелак, аўторак. Патрэбна ўменне працаваць у InDesign. Выхадныя — субота, нядзеля, серада. Калектыў беларускі, аплата працы стабільная. Звесткі пра сябе дасылаць на nn@nn.by.

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Святлане Ш., Таццяне К., Р.К., Мікалаю Ш., В.Я., Ягору Ж., Сяргею К., А.С., С.К., Марыне З., Наталлі М., К.Ж., Людміле М., Галіне Т., А.Ф., Валянціне П., А.Ф., І.С., Г.Ж., Мікалаю А., Алене С., Г.С., У.Ц., Георгію М., М.Ж., Сяргею Я., Аўгінні Б., Міхаілу Т., В.Л., С.К., Аксане З.. Сяргею А., А.Ш., В.Д., Н.А., Вользе А., П.Б., Таццяне М., В.Г., Мікалаю Ш., Галіне Б., А.Г., Ізмаілу А., І.К., Ірыне З., Аляксандру С., Алене М., Валянціну К., Ігару З., Тамары П., Іне К., Мікалаю К. з Мінска.

# Лукашэнка пагражае арміяй. Але каму?

Ён гатовы выкарыстаць войска «пры пагрозе перавароту».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Падзеі ў Тунісе, Егіпце і Лівіі далі Аляксандру Лукашэнкі вялікую тэму для роздумаў. У суботу ён аддаўся ім нават на фрыстайлавым стадыёне. Адзеты ў чорную шапачку, ён бэсціў заходніх палітыкаў: «Гэта злыя і непрыстойныя людзі. З імі нельга ні размаўляць, ні выбудоўваць адносіны». «Хосні Мубарак быў блізкім сябрам амерыканцаў. І што адбылося, калі там пачаліся хваляванні? Яны кінулі гэтых прэзідэнтаў і пачалі патрабаваць дэмакратыі. Вось так яны сябе вядуць. Так яны кідаюць сваіх сяброў, на якіх яны абапіраліся». «Гэта лішні раз пацвярджае: нікому нельга верыць», — пераконваў ён.

З ягоных словаў вынікала, што моцны і квітнеючы Туніс перашкаджаў драпежным планам Захаду: «Нікому не патрэбна моцная краіна. Моцных баяцца і іх страшна не любяць», — казаў Лукашэнка.

Паўстанне супраць Кадафі так зачапіла першага і пакуль апошняга прэзідэнта Беларусі, што ён вярнуўся да той самай тэмы ў панядзелак, у часе наведвання 2-й інжынернай брыгады Узброеных сіл.

Ягоныя выказванні перад вайскоўцамі былі яшчэ больш рэзкімі, чым перад спартоўцамі. Лукашэнка пагражаў арміяй унутраным ворагам. А замежных — страшыў «Чачнёй на захадзе».

Калі ў суботу асноўны ўдар ён наносіў па Захадзе, то панядзелкавыя словы адрасаваліся найперш Расіі.

Лукашэнка сказаў: «Падзеі 19 снежня лішні раз пацвердзілі, што супраць нашай краіны была арганізаваная сапраўдная змова. Вы, людзі вайсковыя, дасведчаныя, ды і я не думаў, што так далёка нашы правадыры могуць зайсці. Хоць быў гатовы, як і міліцыя, і вайскоўцы, да любога зыходу. А калі б не былі гатовыя? Мы б ужо з вамі гэтай сустрэчы не праводзілі».

«Мы абаранілі канстытуцыйны лад, дабрабыт і незалежнасць Беларусі», — заявіў Лукашэнка.

Пры гэтым Лукашэнка выказаў сваю пазіцыю: калі б сітуацыя павярнулася такім чынам, што ўзнікла рэальная пагроза перавароту ў краіне, ён бы не спыніўся перад тым, каб выкарыстаць Узброеныя сілы.

Гаворачы аб падзеях 19 снежня, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «Дзякуй Богу, нам не прыйшлося задзейнічаць Узброеныя сілы».

Фактычна, Лукашэнка намякнуў, што гатовы выкарыстаць войска ў выпадку народнага паўстання. Не супраць «жменькі адмарозкаў» жа выводзіць на вуліцы танкі.

Цікава, што і бен Алі, і Мубарак разлічвалі здушыць пратэсты з дапамогай арміі. Аднак выхад войска на вуліцы прывёў да бяскроўнага сыходу дыктатараў.

Мяркуючы па заявах, А. Лукашэнка асцерагаецца, што да выкарыстання санкцый, нароўні з ЕС, можа звярнуцца і Расія. «Цяпер нас ціснуць, палохаюць эканамічнымі санкцыямі. Калі хто-небудзь з нашага асяроддзя хоча мець у Беларусі Чачню на Захадзе, то гэта не праблема. Гэта будзе складаней, чым Чачня. Думаю, гэта нікому не трэба. Калі хтосьці хоча мець тут круцей, чым Косава, я думаю, гэта таксама не праблема», — заявіў Лукашэнка, выступаючы перад вайскоўцамі.

Паводле ягоных словаў, калі супраць Беларусі будуць уведзеныя эканамічныя санкцыі, то і «дзейнічаць мы будзем адэкватна». «Я не бразгаю зброяй, але і гэтага дабра ў нас хапае», — падкрэсліў Лукашэнка.

Каментатары разышліся ў інтэрпрэтацыі гэтых словаў. Што меў на ўвазе Лукашэнка? Што ён у адказ ужыве ваенную сілу супраць нейкай з суседніх дзяржаваў? Але гэта было б самагубча для Беларусі. Магчыма, Лукашэнка проста нагнятае абстаноўку, каб адцягнуць увагу ад рэзкага росту цэнаў і сацыяльнай панурасці.

**Сяргей Гезгала**

**Бюджэт сілавых структур, млрд руб.**

| | |
|---|---|
| Нацыянальная абарона | 1450 |
| Праваахоўная дзейнасць і забеспячэнне бяспекі | 2475 |

**Для параўнання**

| | |
|---|---|
| Ахова здароўя | 1261 |
| Адукацыя | 1423 |

**Праваахоўная дзейнасць: каму колькі**

| | |
|---|---|
| Органы ўнутраных спраў | 1095 |
| Органы дзяржаўнай бяспекі | 197 |
| Органы памежнай службы | 244 |
| Пракуратура | 84 |
| Мытня | 146 |
| Суды | 147 |

Крыніца: Закон аб бюджэце краіны на 2010 год, які быў выкананы

### А арміі гэта трэба?

Лукашэнка сказаў: «Калі б сітуацыя павярнулася такім чынам, што над краінай навісла рэальная пагроза, я б не спыніўся перад тым, каб выкарыстоўваць Узброеныя сілы». І далей чамусьці прывёў прыклад Егіпта, дзе адбылося роўна процілеглае: Мубарак вывеў войска на вуліцы, але вайскоўцы не ўмяшаліся ў сітуацыю на баку дыктатара. Наадварот, яны мякка патранавалі працэс адхілення ад улады аўтакрата. «Перавярнулі краіну, там сітуацыю — яшчэ невядома, чым яна закончыцца, — ад праліцця крыві ўратавала армія, спакойнымі дзеяннямі… Так, у Егіпце армія больш, чым армія. І можа быць, больш, чым у нас», — прызнаў Лукашэнка.

### Вам гэта нічога не нагадвае?

Любімы сын Кадафі Сейф уль-Іслам працуе каардынатарам сілавых структур краіны. Многае сведчыла, што менавіта яму разлічваў перадаць уладу бацька. Акурат Сейф уль-Іслам выступіў з тэлезваротам пасля таго, як стала немагчыма далей замоўчваць пратэсты. Ягоныя аргументы перагукаюцца з тымі, якія беларусы чуюць на БТ.

«Муамар Кадафі краіны не здасць. Ён тут і будзе змагацца да апошняй хвіліны, да апошняга патрона».

«Гэта бандыты і наркаманы».

«За беспарадкамі стаяць замежныя элементы. Туніскія і егіпецкія найміты таксама тут, і пры тым яны ўзброеныя. Яны хочуць расчляніць і падзяліць нашу краіну. Спецслужбы раскрылі шпіёнскую сетку, якая складаецца з грамадзян іншых арабскіх дзяржаў».

«Лівія — не Туніс і не Егіпет. Для Лівіі непрымальны і немагчымы сцэнар рэвалюцый».

«Кадафі — не Мубарак і не Бэн Алі, класічныя тыраны. Ён — народны лідар».

«У выпадку працягу пратэстаў краіна пагрузіцца ў крывавую грамадзянскую вайну».

«У нас будзе новы сцяг і гімн. Але ў нас не будзе нафты, і хлеба таксама не будзе. Цяпер мы смуткуем па 200 загінулых, а будзем смуткаваць па ста тысячах».

### «Апазіцыя будзе атрымліваць па башцы на ўсю катушку»

«Апазіцыя павінна быць, але я сам сабе апазіцыю ствараць не буду, — сказаў Лукашэнка 19 лютага. — Такая апазіцыя, як цяпер, будзе атрымліваць па башцы на ўсю катушку, калі будзе дэстабілізаваць абстаноўку ў краіне».

# Раскол у наменклатуры

Мусіенка вінаваціць урад у падрыхтоўцы круцельскай прыватызацыі.

Урад рыхтуе прававое поле для наменклатурнай прыватызацыі, заявіў кіраўнік лукашэнкаўскага Аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка ў інтэрв'ю агенцтву «Інтэрфакс».

План, які плануецца зацвердзіць сумеснай пастановай урада і Нацбанка, прадугледжвае магчымасць прыняцця агульным сходам акцыянераў рашэння пра выкуп акцый уласнай эмісіі за кошт чыстага прыбытку «з мэтай наступнай іх перадачы менеджменту прадпрыемства». Іншымі словамі, дырэктары змогуць стаць фактычнымі ўладальнікамі прадпрыемстваў, не заплаціўшы з уласнай кішэні ніводнага рубля. Грошы будуць узятыя з прыбытку. Краіна ад гэтага не пабагацее, а кіраўніцтва атрымае прамысловы капітал. Класічны прыклад наменклатурнай прыватызацыі.

Акрамя таго, у адпаведнасці з праектам, прапануецца магчымасць «накіравання часткі чыстага прыбытку дзяржаўных і напаўдзяржаўных арганізацый на набыццё акцый, якія належаць Рэспубліцы Беларусь па намінальным кошце». Далей гэтыя акцыі будуць размеркаваныя ў залежнасці ад «унёску ў развіццё прадпрыемства». Прапанова з такім самым сэнсам — найбольшы «ўнёсак у развіццё» робіць кіраўніцтва. Напрыклад, дырэктар «Беларуськалія» зможа набыць кантрольны пакет акцый меншых прадпрыемстваў і забраць большую частку акцый сабе.

Каментуючы наступствы прыняцця гэтых нормаў, Сяргей Мусіенка заявіў, што «такія ініцыятывы адлюстроўваюць думкі людзей, якія існуючы стан рэчаў лічаць прыкрым непаразуменнем. Яны хочуць паўтарыць прыватызацыйныя працэсы, якія адбыліся ў суседніх краінах». «Ніхто ніколі не адмаўляў, што ў значнай часткі ўлады ёсць вострае жаданне правесці наменклатурную прыватызацыю. Для беларускага народа гэта нецікава, а для службоўцаў — гэта даўно жаданы сродак перадзелу дзяржаўнай уласнасці», — расходзіўся Мусіенка. Па яго меркаванні, «трэба звярнуць пільную ўвагу на гэтыя прапановы і спыніць іх на ўзроўні дзяржаўных органаў». Гэта, фактычна, патрабаванне разабрацца і пакараць.

Прапанова пра ўключэнне ў план нормаў пра магчымасць перадачы топ-менеджарам дзяржпрадпрыемстваў долі ўласнасці была пралабіравана Рэспубліканскай асацыяцыяй прадпрыемстваў прамысловасці (БелАПП), у якую ўваходзяць больш за 200 найбольш ліквідных беларускіх прамысловых прадпрыемстваў.

Мусіенка — чалавек блізкі да Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. Ён не раз выказваў меркаванні, якія супадалі з пазіцыямі кіраўніцтва Адміністрацыі і Рады бяспекі.

**ЯВ**

### Прыватызацыя ў постсацыялістычных краінах

**Расія — нараджэнне алігархаў**

Ваўчарная прыватызацыя правалілася, бо насельніцтва не разумела, што рабіць з ваўчарамі і прадавала іх скупшчыкам. Другі этап — задаткавая аўкцыёны, у выніку якіх і з'явіліся алігархі, праходзілі на фоне карупцыі і хабараў.

**Польшча — малая павольная прыватызацыя**

За 1990-я гады доля прыватнага сектара ў ВУП вырасла ў два разы, але самыя вялікія прадпрыемствы не былі «раздадзеныя» насельніцтву.

**Літва — спачатку толькі літоўцам**

У банках былі адкрытыя каля 2,6 мільёна ваўчараў, на кожны з іх прыходзілася каля $1 тысячы. Былі распрададзеныя жылыя памяшканні, сфера паслугаў і гандлю. Праз некалькі гадоў дапушчаныя замежнікі, якія праз тэндары маглі купляць прадпрыемствы.

**Чэхія — купонная прыватызацыя**

Кожны паўналетні грамадзянін краіны мог купіць прыватызацыйныя купоны за сімвалічны кошт. Абмен купонаў на акцыі прадпрыемстваў адбываўся ў форме аўкцыёну ў некалькі раўндаў.

# МВФ настойвае на дэвальвацыі рубля. Пракаповіч: немэтазгодна

Беларусь жыве не па сродках. Яна прадае менш, чым купляе. Трэба неадкладна зацягнуць паясы. Такую думку выказала прадстаўніца Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) у Беларусі Наталля Калядзіна.

Калядзіна намякнула, што эканоміцы была б карысна дэвальвацыя рубля на 8%. Але, на яе думку, гэтага мала. Патрэбны і меры бюджэтнай эканоміі.

У аўторак увечары кіраўнік Нацбанка Пятро Пракаповіч сустракаўся з Лукашэнкам. Пракаповіч паведаміў, што банкаўская сістэма краіны працуе без збояў і што курс рубля не ўпадзе больш чым на 8% за год.

**Сяргей Гезгала**

# Урад пайшоў з працягнутай рукой

Працяг са старонкі 1.

За дзесяць дзён да таго прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін пасля перамоваў з беларускім калегам Міхаілам Мясніковічам заявіў, што агульны кошт праекта складае «пад $6 мільярдаў». За гэты час цана раптоўна вырасла на $3 мільярды.

Пагадненне паміж Беларуссю і Расіяй пра ўсе пытанні будаўніцтва АЭС можа быць падпісанае 15 сакавіка, калі адбудзецца пасяджэнне ўрада так званай «саюзнай дзяржавы». Цікава, наколькі вырасце цана за наступныя тры тыдні?

Магчыма, што беларускія перамоўшчыкі паспрабавалі адкупіцца ад настойлівых партнёраў сталічным МАЗам. Сямашка паведаміў, што Расія і Беларусь створаць холдынгавую кампанію «Расбелаўта» на базе актываў МАЗа і КамАЗа. Расія выказала сваю прапанову — кампаніі аб'ядноўвуюцца ў адну, у выніку чаго КамАЗ будзе валодаць 100% акцый МАЗа, а ўлады Беларусі будуць мець пакет акцый у агульным прадпрыемстве — не больш за 25%. Сямашка ж пераконвае, што больш за 49% МАЗа дзяржава аддаваць не будзе.

Будаванне АЭС па расійскай тэхналогіі на дзесяцігоддзі прывяжа Беларусь да Масквы ў энергетыцы, бо краіна вымушана будзе купляць атамнае паліва ў Расіі. Аб'яднанне МАЗа і КамАЗа таксама прывядзе да стварэння ланцужка, які цяжка будзе разарваць.

### Год прадпрымальнасці — $1,7 мільярда з $1 мільёна

Праз некалькі гадзін стала вядома пра жаданне ўладаў узяць яшчэ адну шматмільярдную пазыку! Намеснік прэм'ер-міністра Сяргей Румас паведаміў, што Беларусь папрасіла выдзеліць з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС да $2 мільярдаў: «Вядзецца праца з нашымі калегамі. Хацелася б атрымаць крэдыт на працяглы тэрмін, на кароткі мы не будзем браць», — сказаў ён.

Міністр фінансаў Андрэй Харкавец растлумачыў, што заяўка на атрыманне крэдыту ўжо пададзена. Па яго словах, квота Беларусі ў гэтым фондзе складае каля $1,7 мільярда. «Заяўка разглядаецца, думаю, што ў сакавіку атрымаем каментар Еўразійскага банка развіцця», — падкрэсліў ён.

Гісторыя з «антыкрызісным фондам» — унікальная па нахабстве.

Фонд стварасўся ў 2008 годзе. Згодна з папярэднімі дамоўленасцямі, Расія выдаткоўвала ў яго $7,5 мільярда, Казахстан з Беларуссю — па мільярдзе даляраў, а бедныя Кыргызстан, Таджыкістан — па мільёне даляраў. Пасля Лукашэнка «перадумаў». Замест мільярда ён паабяцаў $10 мільёнаў, прычым унёс мільён даляраў, а на астатнюю суму ў $9 мільёнаў быў выпісаны вэксаль. І гэта дзяржава, поспехам якой, са словаў Лукашэнкі, «зайздросцяць».

### Кітайская цэлюлоза

Трэці крэдыт можна лічыць ужо атрыманым. Кітай выдзяляе Беларусі пазыку на будаўніцтва завода па вытворчасці сульфатнай беленай цэлюлозы. «Рашэнне ўжо прынятае, крэдытная лінія адкрыта, кантракт падпісаны, крэдытная дамова таксама аформлена», — сказаў Сямашка.

Новы завод магутнасцю 400 тысяч кубаметраў у год пры ўнутранай патрэбе рынку ў 150 тысяч кубаметраў будзе пабудаваны ў Светлагорску. Кошт праекта ацэньваецца ў $676 мільёнаў. Сямашка не ўдакладніў умовы выдзялення крэдыту Кітаем, а таксама тэрмін акупляльнасці новага завода.

**Яўген Васількоў**

# На колькі яшчэ падаражэе цукар?



Калі мы вырошчваем штогод больш цукровых буракоў, дык чаму цукар даражэе?

Эксперт прагназуе, што да чэрвеня цэны не выраступь.

Беларусаў апаноўвае цукровая ліхаманка. Пасля чарговага паведамлення пра павышэнне рознічнай цаны на цукар у крамах пусцеюць паліцы. Падаражанне цукру робіцца тэмай для гарачых размоваў у грамадскім транспарце.

Менеджар аднаго з цукровых камбінатаў Беларусі на ўмовах ананімнасці патлумачыў «НН», чаму наш цукар двойчы падаражаў ад пачатку года і калі чакаць наступнага росту цэнаў.

Трошкі больш за палову ўсяго цукру айчынныя камбінаты выпрабляюць з імпартнай сыравіны, якую Беларусь набывае праз Нью-Ёркскую біржу. За апошні год цэны на трыснёг рэзка выраслі — калі ў снежні тона сырцу каштавала прыблізна $680, то ў студзеньскіх кантрактах з'явіліся лічбы ў $750—800. Усяго разам з перавозкай, мытамі і перапрацоўкай сабекошт тоны цукру для камбінатаў складае каля $1000—1100, а ад продажаў на ўнутраным рынку яны атрымліваюць на сёння каля $620. Дзякуючы росту цэнаў, цукровым камбінатам удалося скараціць гэты разрыў, але ён па-ранейшаму застаецца істотным. Захоўваць рэнтабельнасць дазваляе праца на замежны рынак.

Цэны на трыснёг выраслі па ўсім свеце. Прычына — паводкі ў Індыі і Пакістане і суша ў Бразіліі і Расіі летась, а таксама сёлетнія залевы ў Аўстраліі, якая пастаўляе 1/3 сусветнага аб'ёму цукровай сыравіны. Такім чынам, асноўная прычына росту цэнаў на цукар у Беларусі — эканамічная. Хоць без палітычнага складніку не абышлося: у снежні мінулага года камбінатам загадалі трымаць цэны да студзеня — выбары ж у краіне!

Затое зарабіў на простых спажыўцах гандаль. Калі стала вядома пра другое падаражанне, дзяржаўныя крамы затарылі цукрам склады, але на прылаўкі ён трапіў ужо па новай цане.

Чаго чакаць ад цэнаў на цукар у бліжэйшы час? Эксперт мяркуе, што да чэрвеня цукар больш не падаражэе. Далей усё будзе залежыць ад новага ўраджаю трыснягу. А таксама ад цэнаў на энерганосьбіты, што пастаўляюцца з Расіі.

**Сямён Печанко**

# У крызіс на МАЗе звольнілі 4,5 тысячы работнікаў

Сямашка: «Два гады таму завод падышоў да банкруцтва».

Першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка прызнаўся, што падчас крызісу з Мінскага аўтамабільнага завода (МАЗ) давялося звольніць 4,5 тысячы чалавек. Паводле словаў віцэ-прэм'ера, два гады таму МАЗ «падышоў ледзь не да банкруцтва». Рэнтабельнасць прадпрыемства склала мінус 6,7%. «У гэтай сітуацыі былі з'едзеныя амаль усе абаротныя сродкі. Мы вымушаныя былі даць бюджэтную пазыку на 375 мільярдаў рублёў (каля $125 мільёнаў)», — сказаў Сямашка.

У снежні 2010 года, па ягоных дадзеных, рэнтабельнасць МАЗа склала ўжо плюс 9,2%, а заработная плата павялічылася з 1,07 мільёна да 2,03 мільёна рублёў.

Адной з мераў па паляпшэнні эканамічнага стану прадпрыемства сталі дзеянні новага дырэктара Аляксандра Бароўскага. «Ён спакойна, без шуму, нікога не пакрыўдзіўшы, звольніў з прадпрыемства 4,5 тысячы чалавек, — заявіў Сямашка. — Дзякуй богу, Мінск — вялікі горад, праглынуў».

**ЯВ**

# Поўная аднавектарнасць

72% інвестыцый у 2010-м прыйшлі з Расіі.

Інвестыцыі ў рэальны сектар эканомікі Беларусі, без уліку банкаўскай сферы, у 2010 годзе склалі $9,1 мільярда. Асноўнымі інвестарамі ў 2010 годзе сталі расійскія кампаніі. Адтуль прыйшло 72,1% грошай.

На другім месцы аказалася Аўстрыя, якая стала базай для постсавецкага капіталу, — 10%. Далей ідуць Нідэрланды і Кіпр з яго афшорным капіталам — па 3,5%. На Вялікабрытанію, месца пражывання Барыса Беразоўскага, прыпадае 3,1%.

У 2007—2009 гадах Расія таксама была галоўным інвестарам. Яе доля складала 70—90% у агульным аб'ёме інвестыцый. Заходні капітал па-ранейшаму баіцца аўтакратычнага рэжыму Лукашэнкі.

Найбольшыя сумы замежных інвестыцый паступілі ў транспарт (53,2% ад усіх інвестыцый) і прамысловасць (22,8%).

**Сяргей Гезгала**

## Сціпла

• **Бядулеўскі калгас «Савецкая Беларусь» ліквідаваны.** Рашэннем Камянецкага райвыканкама СВК «Савецкая Беларусь» далучаны да ААТ «Белавежскі» праз вялізныя пазыкі прадпрыемства. Вядомы за савецкімі часамі ардэнаносны калгас Уладзіміра Бядулі знік. Сам двойчы Герой Сацыялістычнай Працы быў адпраўлены ў адстаўку ў 2007 годзе пасля святкавання 50-годдзя старшынства. Калгас жыў у галечы — за 2010 год сярэдні заробак у калгасе складаў менш за $220. Агульная запазычнасць прадпрыемства дасягнула $5 мільёнаў.

• **КНДР пачала выпрабляць электраэнергію з рысавага шалупіння.** Мясцовая прэса паведамляе аб распрацоўцы навукоўцамі новай установкі, якая, спальваючы за адну гадзіну 100 кг рысавага шалупіння, можа выпрабляць 50 кВт электраэнергіі.

• **Сутачныя павялічылі на 7 тысяч рублёў.** Міністэрства юстыцыі пагадзілася з прапанаванымі Міністэрствам фінансаў новымі памерамі выплат пры камандзіроўках. Памер сутачных павялічаны з 15 000 да 22 000 рублёў, а сутачных пры аднадзённых службовых камандзіроўках — з 7 500 да 11 000 рублёў.

• **Tax-free вяртаецца?** Шэраг міністэрстваў падтрымлівае прапанову наконт вяртання сістэмы tax-free. Сутнасць сістэмы ў тым, каб падатак на дададзеную вартасць не распаўсюджваўся на замежнікаў. Калі яны набудуць тавар на суму не меншую за 50 еўра, змогуць атрымаць на мяжы працэнт ад гэтай сумы.

• **Уладальнікаў вялікіх катэджаў «памілавалі».** Рашэнне, згодна з якім уладальнікі дамоў плошчай ад 200 квадратных метраў мусілі аплачваць 100% ад кошту камунальных паслуг, прыпынене. А вось у кватэрах, дзе ніхто не зарэгістраваны, па-ранейшаму налічваецца 100%-ая камуналка.

• **Цэны на бавоўну дасягнулі гістарычнага максімуму.** Рост адбываецца праз павелічэнне попыту на сыравіну з боку Кітая. Акрамя таго, у Аўстраліі, якая з'яўляецца чацвёртым у свеце экспарцёрам бавоўны, чакаецца дрэнны ўраджай. Гэта прывядзе да падаражання адзення.

**ЯВ**

# Сафія Шастаковіч: «Мы, немаладыя людзі, хочам, каб Беларусь была свабоднай»



ТАЦЦЯНА ГАЎРЫЛЬЧЫК

Сафія Шастаковіч у свае 72 гады выйшла на маніфестацыю 19 снежня і была збітая АМАПам. Жанчына ўжо не адзін раз сутыкалася раней з судамі і бачыла дзясяткі адпісак ад чыноўнікаў, калі змагалася за сваю спадчыну. І падчас прэзідэнцкіх выбараў жанчына выйшла на Плошчу, бо «калі ўлада нас не чуе, значыцца, трэба мяняць уладу».

**«НН»: Чаму Вы пайшлі на Плошчу?**

**СШ:** Я пайшла на Плошчу, каб абараніць свае правы. Я не адзін раз звярталася ў розныя інстанцыі, але нідзе не змагла дабіцца праўды. Таму я вырашыла выйсці на Плошчу і пратэставаць супраць таго, што ў нас не выконваецца канстытуцыя і ніхто не лічыцца з правамі чалавека. Мы разам з групай жанчынаў, не згодных з рашэннямі судоў па сваіх грамадзянскіх справах і крымінальных справах сваіх блізкіх, выйшлі на Плошчу, каб паказаць уладам, што мы не згодныя, што ўлада вычарпала сябе. Час мяняць законы і канстытуцыю, каб мы маглі жыць па ёй.

**«НН»: З якім настроем Вы ішлі?**

**СШ:** Я думала, нашы кандыдаты, такія як Някляеў і Саннікаў, вартыя. Думала, што яны пераможуць на гэтых выбарах. І стануць вартымі прэзідэнтамі: будуць любіць беларускі народ, а народ будзе любіць іх. Гэта не прэзідэнт, які любіць толькі сябе і сваіх блізкіх паплечнікаў. Нам не трэба такія прэзідэнты, нам патрэбны такія, якія будуць працаваць для народа. Вось таму я і выйшла ў гэтым узросце, каб паказаць, што і мы, немаладыя людзі, хочам, каб наша Беларусь была свабоднай. Нам патрэбна не толькі чарка ды скварка.

**«НН»: Вам не страшна было ісці на акцыю пратэсту?**

**СШ:** Я ў маленстве бачыла вайну. Потым прайшла сталінскі этап: калі нас было 5 дзяцей, мой тата дайшоў да Германіі з перамогай, год і сем месяцаў пабыў дома, і яго асудзілі як ворага народа. Калі памёр Сталін, майго тату цалкам рэабілітавалі па прычыне адсутнасці складу злачынства. Але нашая краіна ні адной капейкі нам не выплаціла, а мы, пяцёра дзяцей, цярпелі ад таго, што з намі баяліся ў вёсцы размаўляць. Сталін быў такім самым дэспатам. І я з малых гадоў была настолькі...

**«НН»: …недаверлівай да ўладаў?**

**СШ:** Не было ў мяне любові да Сталіна таксама. Калі Сталін памёр, уся краіна была ў жалобе. А я скампанавала хлопцаў, і мы бегалі па партах. Прыйшоў завуч і паставіў нас да дошкі. Было 6 хлопцаў і адна я — дзяўчына. Завуч браў хлапцоў за бараду і трос, аб дошку грукаў галавой. Калі ён падышоў да мяне, я падумала: я, можа, застануся непісьменнай, не буду хадзіць у школу, але я яму дам здачы. Ён, напэўна, прачытаў па маіх вачах і сказаў толькі: «Соня, як табе не сорамна, ты ж дзяўчынка». Ужо тады я бачыла, што мой тата нічога дрэннага не зрабіў, што ён абараняў краіну, але ў нас ён стаў ворагам народа. Вось так і ў нас цяпер. Мы можам жыць лепей, наш народ працавіты. Але чаму мы так дрэнна жывём і баімся сказаць слова? Чаму ў другіх краінах могуць выходзіць людзі пратэставаць? Чаму мы не можам выйсці і расказаць, што ў нас на душы?

**«НН»: Раскажыце, што Вы бачылі на Плошчы і якія людзі былі вакол Вас?**

**СШ:** Мы ж адразу не думалі, што там будуць нас збіваць. Нас заклікалі не паддавацца на правакацыі. Многа народу было, і некаторыя заклікалі стаяць да раніцы. Адна жанчына прасіла мяне пайсці дадому, але я сказала, што застаюся. Калі выйшла міліцыя, мы скандавалі: «Міліцыя з народам» — міліцыя нас не чапала. А потым высыпаліся АМАПаўцы, яны рассеклі Плошчу на дзве групы. Я была з тымі, якіх адцяснілі да ўніверсітэта. Яны нас штурмавалі.

**«НН»: Вас збівалі?**

**СШ:** Яны там усіх збівалі. Нас адцяснялі, і я ўпала, білі ботамі па нагах. Тады нейкі мужчына выцягнуў мяне з-пад ног АМАПаўцаў і нас сталі закідваць у міліцэйскія аўтобусы. Са мной побач былі журналісты. Калі мы прыехалі ў міліцыю, польскі журналіст папрасіў, каб мяне адпусцілі. Я дзякую гэтаму журналісту і яшчэ міліцыянту, які даў мне магчымасць сысці і не патрапіць у гэтыя засценкі. Не ўсе міліцыянеры думаюць так, як хочуць улады, і я ім вельмі дзякую за гэта.

**«НН»: Як Вы сябе адчувалі пасля збіцця?**

**СШ:** Калі атрымала ўдары ад АМАПўцаў, мне было балюча стаяць. Можна было сесці ў аўтобусе, але я не магла прайсці далей. І я падумала: «Госпадзі, мы ж перажылі вайну такую, нас немцы так не білі». А тут свае, мы ж нічога не рабілі дрэннага, мы проста выйшлі сказаць сваё слова, што нам надакучыла ўся гэтая беззаконная ўлада. Колькі ж можна цярпець? Нашы законы павінны працаваць не толькі на іхніх словах, а на самой справе. Канстытуцыя не працуе, суды... Навошта нам такая дзяржава? Мы звяртаемся да свайго прэзідэнта, а ён нас не чуе. Навошта тады нам такі прэзідэнт, які не чуе свайго народа? Ён кажа, што апякуецца беларускім народам. А мы тады хто? Ці мы не народ — тыя, хто выйшаў на Плошчу? Мы не народ, каго там збівалі: і маладых, і старых?

Я хацела б, каб тых, хто яшчэ знаходзіцца ў турмах, выпусцілі. Тыя, хто выйшаў і не пабаяўся, што іх могуць збіць і затрымаць, — вось гэта сапраўдныя людзі. І я за свабодную Беларусь. Каб мы маглі паўсюль і заўсёды ведаць, што мы абаронены законам.

**Гутарыла Настасся Шамрэй**

# Кіркевіч з турмы: Дзякую Богу, што апынуўся тут

Алесь Кіркевіч даслаў чатыры лісты і верш.

Родныя Алеся Кіркевіча — гродзенскага актывіста Маладога фронту, які падазраецца па справе аб «масавых беспарадках» і знаходзіцца ў СІЗА КДБ — атрымалі першыя лісты ад юнака. Алесь піша, што гэта час, каб падумаць пра сябе і сваю будучыню.

«Я дзякую Богу за тое, што апынуўся тут. Ёсць час падумаць над той справай, якой займаюся, нешта пераасэнсаваць... (прыватныя моманты)».

«У мяне ўсё добра, гэта проста этап у маім жыцці, гэта частка майго шляху». «Настрой пазітыўны, здароўе нармальнае, калі не сказаць выдатнае».

Алесь, аднак, просіць прабачэння, што прымушае турбавацца за сябе родных.

Таксама просіць «не захапляцца» колькасцю перадач — «толькі самае неабходнае, бо нязручна пераносіць (з камеры ў камеру)».

У другім лісце быў дасланы верш «Для Надзеі», прысвечаны жонцы.

У чацвёртым лісце Алесь Кіркевіч паскардзіўся на сэрца. Ён папрасіў выслаць выпіскі з медычнай карткі, а таксама якіясьці лекі.

**Кастусь Матушыч**

## АЛЕСЬ КІРКЕВІЧ

ДЛЯ НАДЗЕІ

Ты бяжыш восеньскім лесам.
Даганяюць лісты алею.
Елкам мроіцца лёд і завеі,
Пекла чорнае мроіцца бесам.

Гром з маланкай на твары знікаюць,
Неба твар да цябе схіліла,
Лісця жоўтага ў кубак наліла,
Я за гэта сёння не каюся.

Ты стаіш над ракою часу,
Йдуць часы, вечары, гадзіны…
Быў. Ёсць. Будзе толькі Адзіным
Той, хто гладзіць палеткі прасам.

Помніш ты наш пагорак над Нёмнам,
Дзе гармонія шэрага й чыстага?
Праз гады і віхуры ён выстаяў.
Выстаяў — і мы выстаім!


**Жонка расклейвала ўлёткі за вызваленне мужа**
14 лютага ўначы ў Гродне былі затрыманыя Надзея Крапівіна і Вераніка Лемяноўская. Іх затрымалі нібыта за расклейванне ўлётак. Маці Надзеі Крапівінай (Надзея — жонка Алеся Кіркевіча) спадарыня Ніна сказала, што раніцай у іх кватэры правяліператрус, сканфіскавалі ноўтбук, улёткі «Свабоду Кіркевічу!», «Свабоду Дашкевічу!».

# Справа развалілася

**Суд над грамадзянамі Расіі, удзельнікамі Плошчы, працягнецца 1 сакавіка.**

22 лютага ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаўся разгляд справы Арцёма Брэўса і Івана Гапонава.

Арцёма Брэўса і Івана Гапонава вінавацілі ва ўзброеным супраціўленні супрацоўнікам праваахоўных органаў і актыўным удзеле ў масавых беспарадках, што, на думку абвінавачання, мелі месца ў Мінску вечарам 19 снежня 2010 года.

Ні Брэус, ні Гапонаў сваёй віны не прызналі.

Але найбольшы ўдар па абвінавачанні нанеслі не яны, а сведкі-міліцыянты Алег Дударчык і Аляксандр Якаўлеў. Яны блыталіся ў паказаннях і супярэчылі таму, што расказвалі следчаму пад пратакол. У выніку суддзя Любоў Сямахіна (дарэчы, унесеная ў спіс неўязных) была вымушана нагадаць спецназаўцу Якаўлеву аб крымінальнай адказнасці за непраўдзівыя паказанні. Пасля гэтага «сведка» канчаткова замоўк.

Самае цікавае адбылося пасля перапынку, калі суддзя ўзялася праглядаць відэазапісы з Плошчы. Гапонаў там амаль не фігураваў, а Брэус прамільгнуў некалькі разоў. Аднойчы было выразна заўважна, што ён сам бароніцца ад спецназаўцаў, а потым і ўвогуле ляжыць на зямлі.

Тут яшчэ адмовіўся ад сваіх прэтэнзій грамадзянскі пазоўнік —Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Адміністрацыі прэзідэнта (ГГУ). Шэсць разбітых вокнаў Дома ўрада былі ацэнены ім у 14 мільёнаў рублёў. 21 лютага праваабаронцы пералічылі гэтыя сродкі на рахунак. Грамадзяне сабралі іх за два дні (гл. артыкул ніжэй).

У выніку пракурор быў вымушаны папрасіць тыдзень для перакваліфікацыі абвінавачванняў. Суддзя пагадзілася.

Працэс працягнецца 1 сакавіка.

**Алесь Пілецкі**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Перад судом дарадца расійскага пасольства ў Мінску Вадзім Гусеў сказаў «Нашай Ніве»:** «У выпадку з прысудам грамадзяніну Беларусі [Парфянкову, гл. старонку 8] былі доказы яго актыўнага ўдзелу, былі відэазапісы. Таксама Парфянкоў меў судзімасці, што аказала свой уплыў на прысуд. Мы ж адстойваем пазіцыю, што доказаў актыўнага ўдзелу нашых грамадзян у пратэстах няма. Таму настойваем на іх вызваленні. Мы сваю пазіцыю да беларускіх уладаў данеслі». **Вызваленне Гапонава і Брэуса раней ускосна патрабаваў прэзідэнт Расіі Мядзведзеў і адкрыта — міністр замежных спраў Расіі Лаўроў.**

## Палітыкі запрасілі насельніцтва абмеркаваць сцэнар 25 Сакавіка

Шэсце на 25 Сакавіка мае стаць дэманстрацыяй салідарнасці.

Кіраўнік хрысціянскіх дэмакратаў Віталь Рымашэўскі запрасіў грамадскасць да абмеркавання фармату падзеі. Першы такі мазгавы штурм прайшоў 21 лютага.

Арганізатары падалі заяўку на збор на плошчы Якуба Коласа і шэсце праспектам да помніка Янку Купалу.

**СГ**

# «Хай задушацца»

**Праваабаронцы заплацілі за «шкоду, нанесеную Дому ўрада».**

Яны разлічваюць такім чынам зняць фінансавую адказнасць з абвінавачаных у масавых беспарадках 19 снежня.

21 лютага праваабаронцы пералічылі сродкі на рахунак Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта (ГГУ). Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміў юрыст Валянцін Стэфановіч. Такім чынам яны разлічваюць зняць фінансавую адказнасць з абвінавачаных у масавых беспарадках 19 снежня.

Гэта ГГУ выставіла грамадскі пазоў за выбітыя ў Доме ўрада вокны.

Згодна з арт. 63 Крымінальнага кодэкса, добраахвотнае адшкоджанне шкоды з'яўляецца абставінамі, што змякчаюць адказнасць. Сродкі на кампенсацыю былі ахвяраваны простымі людзьмі. Праваабаронцы просяць грамадзянаў працягваць збор грошай на патрэбы вязняў.

Па словах адной з удзельніц кампаніі па арганізацыі збору сродкаў, юрысткі Дар'і Каткоўскай, гэтая ініцыятыва адначасова і дапамога арыштаваным, з якіх раней ці пазней спаганялі б гэтыя грошы, і адначасова сігнал




сістэме — што грамадства не кідае сваіх людзей, што яно здольнае і будзе дапамагаць.

Нагадаем, што 17 лютага ў чацвер на судзе над сябрам грамадскай кампаніі «Гавары праўду!» Васілём Парфянковым быў заяўлены грамадскі пазоў з боку ГГУ Адміністрацыі прэзідэнта, які ў судзе падтрымліваў Дзмітрый Лепеш. Разбітыя вокны і дзверы ў Доме ўрада былі ацэнены ў 14 мільёнаў 144 тысячы беларускіх рублёў. Першапачаткова ў вызначэнні пракуратуры фігуравала сума ў 29 мільёнаў. Сп. Лепеш паабяцаў адклікаць пазоў у выпадку грашовай кампенсацыі «шкоды, нанесенай Дому ўрада».

**Сямён Печанко**

ДА АБСУРДУ

## Навасяд прапануе судзіць экс-кандыдатаў у Палацы Рэспублікі

Былы дэпутат палаты прадстаўнікоў Уладзімір Навасяд прапанаваў, каб судзілішча над экс-кандыдатамі ў прэзідэнты праходзіла ў Палацы Рэспублікі, каб на ім магла прысутнічаць максімальная колькасць выбаршчыкаў.

— Па афіцыйных дадзеных ЦВК, у агульным ліку за дэмакратычных кандыдатаў паставілі свае подпісы 975 949 грамадзян Рэспублікі Беларусь, — сказаў ён у інтэрв'ю сайту «Беларускі партызан». — І я думаю, лёс кандыдатаў ім неабыякавы, акрамя ўсяго іншага, яны проста хочуць іх убачыць, як хочуць іх убачыць дзеці, жонкі, бацькі. У гэтай сувязі судовыя органы маглі б зрабіць судовыя пасяджэнні ў Палацы Рэспублікі. Думаю, туды калі не ўсе, то многія змаглі б змясціцца, ды і пытанні змаглі б задаць. Урэшце, засталіся на свабодзе кіраўнікі штабоў, давераныя асобы кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, якія могуць правесці сход сярод прыхільнікаў падсудных і выбраць з іх дэлегатаў на судовыя пасяджэнні.

Прыкладам мог бы стаць суд у СССР над збітым амерыканскім лётчыкам Фрэнсісам Паўэрсам падчас халоднай вайны з ЗША. Суд праходзіў у Маскве ў Палацы з'ездаў пры велізарнай колькасці людзей у зале. У цэлым, грамадскасць была шырока прадстаўлена. Думаю, нашы дэмакратычныя кандыдаты нічым не горшыя за падбітага амерыканца.

Што тычыцца пытанняў, то пытанні будуць і ў народа, і ў кандыдатаў пытанні таксама будуць, у тым ліку і да іншага кандыдата. І незададзеныя пытанні цяпер, у закрытых пасяджэннях, напэўна будуць зададзены пазней, але ўжо публічна», — сказаў палітык.

**СГ**

## Наста Палажанка: Я ўжо ведаю, што такое ШОС

Юначка з Маладога Фронту Наста Палажанка не балатавалася ў прэзідэнты РБ і нават не была заўважаная ля пабітых вокнаў Дома ўрада. Аднак яна правяла ў СІЗА КДБ два месяцы.

Першае, што зрабіла Наста на свабодзе, — гэта амаль суткі прасядзела ў інтэрнэце. А потым пачала насіць перадачы і дасылаць паштоўкі арыштантам. Каму, як не ёй, ведаць, як гэта важна для іх.

### Пра першыя дні на свабодзе

Я ад 17 лютага на свабодзе ўжо. Першыя суткі правяла ў інтэрнэце. Не вылазіла адтуль. У турме я нават не магла здагадвацца, што адбываецца ў краіне. Магла толькі адчуваць той жах, які быў. Адчуваць па тым, як перапаўнялася турма.

Пасля я праводзіла ўвесь час з маладафронтаўцамі. Паспела перадаць перадачу Дашкевічу, кожны дзень пішу лісты палітвязням.

### Пра турму

У першыя дні «амерыканка» напаўнялася вязнямі. Аднойчы ў адной камеры сабралі ўсіх жанчын, якія на той момант знаходзіліся ў СІЗА КДБ. Я разумела, што ў мужчын сітуацыя яшчэ горшая.

Мы чулі, як збіваліся драўляныя шчыты, на якіх спалі тыя, каму не хапала месца. Па ўсіх гэтых прыкметах мы разумелі, што адбываецца нешта сумна-фенаменальнае.

У турме самым складаным была інфармацыйная блакада. А так, у прынцыпе, нічога асаблівага. Калі пераключаешся на тое, што гэта не санаторый, то можна задаволіцца тым, што ёсць.

У камеры нават магчыма гатаваць. Гэта насамрэч займала шмат часу і было для нас цікавым заняткам. Прыправаў мы не мелі, але нам перадавалі «Ролтаны», у якіх былі разнастайныя прыправы. Мы іх мяшалі, дадавалі туды чарнасліў, часнок. Перадавалі шмат садавіны, і мы рабілі фруктовыя салаты, дадавалі туды печыва. Я так дома не харчавалася. Родных пакуль не частавала «турэмнай кухняй», але паспрабую.

### У турме пра палітыку не гаворань

У турме пра палітыку не гавораць. Мы пра жаночы быт размаўлялі. Я папрасіла бацьку, каб ён перадаў мне касметыку. Гэта было важна для адчування асабістай годнасці. Я старалася добра выглядаць нават падчас допыту.

### Пра Ірыну Халіп

Тры тыдні я правяла ў адной камеры з Ірынай Халіп. Гэта найцудоўнейшая жанчына, вельмі моцная. Я з ёй не была знаёмая. Толькі чула аб ёй... чытала матэрыялы ў свой час. Ірына ўразіла мяне сваёй мужнасцю.

Усе турботы Ірыны былі аб маленькім сыну, які застаўся без бацькоў.

Трымаць жанчын у тых умовах, якія маюцца ў «амерыканцы», — непрымальна. Сядзець там падазраваным ў эканамічных злачынствах пераважна.

### Пра святы

Мы самі рабілі сабе святы. Мне перадалі розныя каляровыя сурвэткі, і я імі ўпрыгожвала сцены, абшарпаныя тумбачкі — гэта ўсё прыносіла вялікую радасць. На Новы год Таня Шапуцька перадала мне шакаладных зайцоў, і калі іх прымалі, то раздрабілі на кавалкі. Таму мы ўсе ў камеры складвалі іх па кавалках і склалі! Аднаго з'елі потым на Новы год, а другога — на Раство.

На Новы год пасядзелі да дзесяці гадзін, да вечара, і пайшлі спаць. Акурат тады я пачула, што некага вызваляюць. Пазней аказалася, што гэта Віталь Рымашэўскі [экс-кандыдат у прэзідэнты, вызвалены 31 снежня].

### Пра змены

Я яшчэ больш пераканалася ў тым, у чым была перакананая. Пераканалася, што сапраўды люблю сваю справу, сваіх сяброў. Нам спрабавалі гаварыць, што на свабодзе аб нас забылі. Але я ведала, што гэта не так.

Я не змянілася. Адно што ведаю цяпер, што магу праходзіць праз такія выпрабаванні.

### Пра бацьку

Цяпер я ведаю, што бацька, які ніколі не цікавіўся асабліва грамадска-палітычным жыццём, актыўна за мяне змагаўся. І я вельмі ўдзячная яму за гэта.

### Пра краіну

У мяне ўражанне, што я адсутнічала не два месяцы, а з часоў мінулай прэзідэнцкай кампаніі. Сапраўды, настолькі шмат адбылося падзей, настолькі шмат людзі перажылі выпрабаванняў,ператрусаў, допытаў, што я вельмі баялася прыйсці і пабачыць зашуганых людзей. А пабачыла агонь у вачах.

А яшчэ я ведаю, што такое ШОС [папулярны гумарыстычны тост «Шоб он сдох»]. Мне расказалі ўжо, нават кашульку падарылі з ШОСам. Ёсць такая справа.

**Алесь Пілецкі**

# Алесь Міхалевіч: Не маю права расказваць

Вечарам 19 лютага Алеся Міхалевіча, экс-кандыдата ў прэзідэнты, выпусцілі з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе. І не толькі выпусцілі, а нават завезлі амаль пад самы дом. На наступны дзень, праз няпоўныя суткі пасля вызвалення, журналісты «Нашай Нівы» наведалі палітыка.

За два месяцы ён схуднеў (жонка Мілана жартуе, што праз нечаканую схуднеласць упершыню можа моцна абняць мужа), але аптымізму не згубіў. Падчас гутаркі з журналістамі Алесь неаднойчы перарываўся, каб распавесці аб прыемнай драбніцы, якая напаткала яго пасля вызвалення. Нават аб сяміператрусах, якія перажыла яго сям'я падчас адсутнасці Алеся Міхалевіча дома, ён расказваў з усмешкай.

Што палітык збіраецца рабіць далей, што думае аб сваім затрыманні, якія дрэнныя і добрыя звычкі з'явіліся ў яго пасля «амерыканкі» і чым уразіла краіна пасля вызвалення — аб усім гэтым у вялікім інтэрв'ю Алеся Міхалевіча для «Нашай Нівы».


АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

**«НН»: Раскажыце, калі ласка, дзе Вы сядзелі гэтыя два месяцы.**

**АМ:** Большасць часу я правёў у следчым ізалятары КДБ, а нейкі час, прыкладна тыдзень, я знаходзіўся на вуліцы Валадарскага.

**«НН»: Можаце сказаць, чаму так выйшла?**

**АМ:** Мне, самі разумееце, ніхто гэтага не тлумачыў. Не я прымаў рашэнне аб такіх «пераездах».

**«НН»: Умовы ўтрымання адрозніваліся?**

**АМ:** Умовы ўтрымання могуць быць інтэрпрэтаваныя як важны элемент следства. Я не магу адказваць на гэтае пытанне.

**«НН»: Што было самым складаным падчас знаходжання ў СІЗА?**

**АМ:** Зразумела, што гэта не санаторый. Але я заўсёды быў маральна гатовы да падобных рэчаў. Перад гэтым бываў на Акрэсціна, таму для мяне не было нічога асаблівага.

**«НН»: Зразумела, што ў СІЗА быў інфармацыйны вакуум, ці даходзіла хаця б нейкая інфармацыя аб сітуацыі ў краіне?**

**АМ:** Першыя дні ўсё было даволі адкрыта. У нас былі газеты, было тэлебачанне. Першыя дні інфармацыі было больш чым дастаткова. Аб тым, што адбывалася далей, не магу расказаць. Гэта таксама можа быць таямніцай следства.

**«НН»: Раскажыце, калі ласка, аб людзях, з якімі сядзелі. Якім было іх стаўленне да Вас?**

**АМ:** Трэба заўважыць, што я не маю права аб іх расказваць. Але ўвогуле аб людзях, што сядзяць у СІЗА КДБ, можна даведацца з адпаведных законаў. Гэта эканамічныя злачынцы, гэта часткова наркаманы... Такога плану людзі. У сваёй перадвыбарчай праграме я адзначаў, што яны павінны трапіць пад амністыю.

Усе людзі, што знаходзяцца ў СІЗА, ставяцца адзін да аднаго як да сябра па няшчасці. Праблем не было.

**«НН»: Перадачы, лісты даходзілі?**

**АМ:** Да мяне даходзілі паштоўкі. Жонка і сястра перадавалі мне шмат паштовак. Там нельга было пакідаць надпісы ад рукі, але ў іх былі надпісы, зробленыя яшчэ ў друкарні. І гэта было прыемна. Прыемна было бачыць нейкія цёплыя тэксты.

У перадачах мае значэнне цеплыня. Тут важны не столькі матэрыяльны момант, колькі разуменне таго, што цябе памятаюць, думаюць.

**«НН»: Вы б маглі нешта расказаць аб тэлефанаванні дадому? Гэта Вы званілі?**

**АМ:** На жаль, гэта датычыць следчых дзеянняў. Я не магу гаварыць на гэтую тэму. Магу толькі сказаць, што званіў я.

**«НН»: Як Вас адпусцілі з СІЗА?**

**АМ:** Для мяне гэта было нечакана. Зразумела, што кожны затрыманы, падсудны, чакае, што тэрмін утрымання пад вартай можа быць падоўжаны. У мяне былі спадзяванні, што 19-га могуць адпусціць. І ўвечары мяне паклікалі і далі паперы пад подпіс. Такім чынам я апынуўся на свабодзе. Мяне нават падвезлі на службовай машыне да плошчы Якуба Коласа, і адтуль я ўжо пешшу дабраўся дадому.

Малодшая дачка са здзіўленнем паглядзела на таго вялікага дзядзьку, якога ўсе радасна сустракаюць... Яна мяне трохі забылася.

**«НН»: Чаго найбольш зараз чакаеце ад аднаўлення кантакту з сям'ёй?**

**АМ:** Я хачу быць разам з жонкай. Таксама магу сказаць, што паміж намі існавала дамоўленасць, што Мілана не ўдзельнічае ў кампаніі. Што мы не з'яўляемся разам на публіцы. Што кампанія — па-за сям'ёй. А цяпер у мяне такое адчуванне, што пазнавальнасць маёй жонкі стала нават большай за маю.

**«НН»: Яна нармальна рэагуе на тое, што стала публічнай асобай?**

**АМ:** Я думаю, што ў Міланы проста не было іншага выбару. Яна змагалася за мяне, за тое, каб мяне адпусцілі.

**«НН»: Вы збіраецеся заставацца ў палітыцы?**

**АМ:** Я толькі вызваліўся. Я хачу даведацца, што адбылося за гэты час, даведацца, на якім свеце мы знаходзімся, што адбываецца ў палітыцы, што робіцца ў розных сферах. У адпаведнасці з гэтым я буду вырашаць, што рабіць далей. Праведзеныя ў СІЗА КДБ два месяцы не моцна мяне змянілі. Хіба што... стаў чытаць газету «Прессбол». І рабіць салацікі з садавінкі, шмат гатаваць. Давялося шмат якія звычкі змяніць. Калі жывеш з людзьмі на маленькай прасторы, усё павінна быць так, як паміж сабой дамовіліся. Таму ў мяне з'явілася дадатковая самаарганізаванасць у бытавых рэчах.

**«НН»: Дрэнных звычак не ўзнікла?**

**АМ:** Ні для каго не сакрэт, што ў некаторых камерах ёсць шмат людзей, якія размаўляюць матам. Яны не лаюцца, яны ім размаўляюць. Таму адбывалася нейкая адаптацыя да гэтага стылю. Я размаўляў з імі па-беларуску і па-расейску. Там жа не толькі грамадзяне Беларусі знаходзяцца.

Хачу таксама заўважыць, што ўсе мае хадайніцтвы аб перакладзе дакументаў, звязаных з маёй справай, на беларускую мову былі задаволеныя. Адмыслова наняты перакладчык гэта зрабіў. Гэта было маім правам у адпаведнасці з заканадаўствам.

**«НН»: Падчас выбарчай кампаніі Вы нават публічна не заклікалі на Плошчу. Вашае затрыманне на такі працяглы тэрмін стала вялікай нечаканасцю. Як можаце ацаніць гэта?**

**АМ:** Мне цяжка рабіць ацэнкі. Я быў па-за навінамі. Мне зараз трэба ўсё гэта ацаніць і зразумець, чаму так адбылося.

**«НН»: За апошнія некалькі гадзін на Вас абрынуўся шквал інфармацыі. Што з пачутага было самай вялікай нечаканасцю?**

**АМ:** Нечаканасцю быў вельмі высокі ўзровень салідарнасці паміж людзьмі. Гэта ўжо іншая Беларусь, чым тая, што была раней.

**Алесь Пілецкі, Настасся Шамрэй**

**Алесь Міхалевіч**

нар. у 1975. Быў адным з памяркоўных крытыкаў Лукашэнкі ў часе кампаніі. Ледзьве-ледзьве сабраў 100 тысяч подпісаў. Задэклараваў другія па памеру даходы пасля Лукашэнкі. Быў затрыманы 20 снежня каля 5-й гадзіны ранку. Нягледзячы на тое, што не заклікаў людзей на Плошчу і не ўдзельнічаў у бучы каля Дома ўрада, быў абвінавачаны ў «беспарадках» і правёў два месяцы ў турме.

Выказвалася меркаванне, што ад яго хацелі проста пакаяння ў стылі Раманчука і Кастусёва ці хоць бы «тлумачальнай» на імя Лукашэнкі, як ад Рымашэўскага, але ён не паддаўся. Таму і сядзеў.

У часе ягонага зняволення ягонай жонцы забаранілі выезд за мяжу для ўдзелу ў слуханнях, прысвечаных вызваленню беларускіх палітвязняў.

У кватэрах Міхалевіча і ягоных сваякоў прайшло сем ператрусаў.

# Псіхічная стомленасць

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

У дэмакратычных краінах нельга надоўга ўтрымацца ва ўладзе. Не толькі таму, што палітыка таго ці іншага дзеяча з часам пачынае не задавальняць большасць грамадзян, і яна, гэтая большасць, галасуе на выбарах супраць таго лідара, які не задавальняе яе інтарэсаў. Ёсць яшчэ псіхалагічны чыннік. Гаворка пра псіхічную стомленасць грамадзян, жаданне бачыць новыя твары, жаданне перамен.

Я абмінаю тут праблему прэзідэнцтва ў тых краінах, дзе прэзідэнт выконвае прадстаўнічыя функцыі (Нямеччына, Італія, Партугалія).

Што тычыцца прэзідэнцка-парламенцкіх дзяржаў, дык у Еўропе, здаецца, толькі адзін Урха Калева Кеканен быў прэзідэнтам Фінляндыі 25 гадоў запар (1956—1981).

Наколькі памятаю, ніхто ні разу не аспрэчваў факт ягонай перамогі на выбарах. І ўсё ж пасля сыходу Кеканена з пасады фіны вырашылі, што наступныя прэзідэнты будуць выбірацца не больш як на два тэрміны запар (12 год). І гэтае правіла неадменна захоўваецца.

Іншая справа ў Францыі. Там з шасці прэзідэнтаў V Рэспублікі 14 год (два тэрміны запар) вышэйшую пасаду ў дзяржаве займаў адзін Франсуа Мітэран. А потым француджанкі і французы вырашылі, што чатырнаццаць год — занадта, і цяпер прэзідэнт Французскай Рэспублікі не можа займаць гэтую пасаду больш як дзесяць год (дзве легіслатуры) запар.

Што тычыцца дзяржаў, у якіх вырашальная роля належыць парламенту, дык там самым даўгавечным кіраўніком урада быў федэральны канцлер Нямеччыны хрысціянскі дэмакрат Хельмут Коль: ён займаў гэтую пасаду 16 год — на два гады больш за свайго аднапартыйца, першага канцлера Фэдэратыўнай Рэспублікі Конрада Адэнаўэра.

Трынаццаць год узначальваў урад Іспаніі сацыяліст Феліпе Гансалес.

У Злучаным Каралеўстве ў XX — на пачатку XXI стагоддзя былі два самыя даўгавечныя прэм'ер-міністры — кансерватарка Маргарэт Тэтчэр і лейбарыст Тоні Блэр. Яны займалі рэзідэнцыю на Даўнінг-стрыт па дзесяць гадоў. Але ім не ўдалося пабіць рэкорд, устаноўлены ў XIX стагоддзі лордам Ліверпулем, які сядзеў у прэм'ерскім крэсле 13 гадоў запар.

Як мы помнім, «жалезная лэдзі» Маргарэт Тэтчэр пагарэла на «падушным падатку». Калі на вуліцы выйшаў народ, у кансерватыўнай партыі пачаўся бунт, і харызматычная Мэгі вымушаная была саступіць лідарства бясколернаму Джону Мэйджару. У выніку незадаволенасці выбаршчыкаў і ўнутрыпартыйнай барацьбы перастаў быць лідарам і яркі Тоні Блэр. Ягоным наступнікам стаў Гордан Браўн, які відавочна саступаў свайму папярэдніку як чалавек і палітык.

Калі б хто паспрабаваў пераканаць мяне, што праз 16 год сядзення ў крэсле Лукашэнка атрымаў амаль 80 працэнтаў галасоў, я б пасмяяўся яму ў твар. Але ніхто (!) аніразу (!!) не спрабаваў мяне ў гэтым пераканаць. Не лічачы штатных прапагандыстаў. Ды штатным прапагандыстам я не веру з юнацкіх гадоў.

Тут і тое трэба ўлічваць, што за 20 постсавецкіх гадоў не аднойчы памяняліся першыя асобы ў суседніх краінах. Людзі параўноўваюць «свайго» і «іхніх». І гэтае параўнанне, мякка кажучы, не заўсёды на карысць «свайго».

Пастойце ў чэргах па пенсію і паслухайце размовы людзей. А як ставіцца да Лукашэнкі моладзь, паказала Плошча. «Я ў першы клас пайшла, калі ён стаў прэзідэнтам, — сказала адна знаёмая. — Колькі мне яшчэ цярпець гэтага ...?» — спыталася яна.

Плошчы Тахрыр і Бенгазі паказалі, што доўга заседжвацца на пасадзе рызыкоўна для здароўя ўладалюбцы.

# Чатыры гады строгага рэжыму

Першы прысуд за Плошчу разлічаны, каб застрашыць тых, хто яшчэ ў турме.

Жорсткі прысуд вынеслі Васілю Парфянкову — яго пакаралі чатырма гадамі пазбаўлення волі з адбыццём у калоніі строгага рэжыму. Таксама ён павінен выплаціць 14 мільёнаў 48 тысяч за замену дзвярэй і сцёкавых труб у будынку Дома ўрада і «расліннага свету» побач з ім.

Суд над сябрам ініцыятыўнай групы Уладзіміра Някляева прайшоў 17 лютага ў Мінску. Нават да абвяшчэння перапынку ў пасяджэнні ніхто не чакаў, што прысуд абвесцяць у той самы дзень. Але ўвечары справа была ўжо закончаная.

Чаму суды пачаліся менавіта з Парфянкова? Ёсць меркаванне, што яго абралі, бо ён адкрыты радыкал і ў часе следства прызнаў сваю віну. Пакаяўся перад камерай. Але найбольш лагічнае меркаванне выказаў журналіст Паўлюк Быкоўскі: каб аказаць псіхалагічны ціск на іншых падазраваных.

Акрамя таго, гэта быў своеасаблівы тэст для заходняй дыпламатыі. Калі б першым судзілі Дашкевіча ці кагосьці з экс-кандыдатаў, рэакцыя была б адназначнай. Еўрасаюз папярэджваў Мінск, што ў выпадку жорсткіх прысудаў палітвязням ЕС увядзе новыя санкцыі за парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.

Яшчэ раніцай 17 лютага ў судзе Фрунзенскага раёна сталіцы назіралася напружанасць. За паўгадзіны да пачатку суда міліцыянты ў цывільным адмаўляліся прапускаць журналістаў у залу. Тлумачылі гэта тым, што няма свабодных месцаў. А стоячы нельга. Думалася, што залу запоўнілі спецыяльнымі людзьмі. Маўляў, суд хоць і зрабілі адкрытым, але фармальна. Калі ўсё ж журналістаў запусцілі, выявілася, што месцы вольныя ёсць, хаця іх і няшмат.

Суддзя Вольга Комар забараніла весці фота- і відэаздымкі. Спачатку прайшлі фармальныя працэдуры, пасля якіх грамадзянскі пазоўнік падаў пазоўнае патрабаванне на 14 мільёнаў 48 тысяч за замену дзвярэй і сцёкавых труб у будынку Дома ўрада і «расліннага свету» побач з ім. Васіля Парфянкова абвінавацілі ў тым, што ён удзельнічаў у несанкцыянаваным мітынгу, нанёс не менш за 61 удар па дзвярах Дома ўрада. Парфянкоў прызнаў віну часткова. Маўляў, у шэсці і мітынгу ўдзельнічаў, а ў пагромах — не.

Падчас допыту яму прыйшлося ўзгадаць усе падзеі, сведкам якіх ён з'яўляўся. Ад 19 гадзін 19 снежня, калі ён прыйшоў на офіс Уладзіміра Някляева. Парфянкоў быў у калоне экскандыдата на прэзідэнта, якая рухалася на Кастрычніцкую плошчу. «Ехаў мікрааўтобус побач з намі. Пасля з'явіліся незразумелыя людзі ў чорным без знакаў адрознення. Паклалі тварам на снег. Прайшло хвілін дзесяць. Як паклалі, так і адпусцілі. Мікрааўтобус застаўся там. Павыбівалі ў ім шыбы».

Збіты Някляеў. Яго забірае хуткая. Кастрычніцкая. Шэсце да плошчы Незалежнасці. Калі Парфянкоў стаяў каля помніка Леніну, пачуў гук разбітага шкла. Падышоў паглядзець, што адбываецца на ганку Дома ўрада. «Убачыў людзей. Шыбы былі разбіты. Яны штурхалі дзверы. За дзвярыма стаяла драўлянае загрувашчванне. І людзі штурхалі яго».

Калі ў Пафянкова паспрабавалі спытаць, навошта ён пачаў наносіць удары, той адказаў: «Не тое каб удары. Штурхаў. Немагчыма было не штурхаць, натоўп ззаду...» Пракурор Антон Загароўскі абарваў Парфянкова іншым пытаннем. Але пасля той усёткі дагаварыў: «Стаіш. Натоўп ззаду напірае і кідае на гэтае нагрувашчванне». Адысці, па яго словах, было немагчыма. І толькі пасля заклікаў Рымашэўскага супакоіцца, калі да парадку заклікалі Статкевіч і Саннікаў, натоўп адступіў ад дзвярэй.

Адвакат Ігар Папкоўскі не раз звяртаў увагу на тое, што на Кастрычніцкай плошчы Парфянкоў не чуў афіцыйнага папярэджання. Маўляў, каб прысутныя разыходзіліся, бо акцыя з'яўляецца несанкцыянаванай. Не чуў ён і заклікаў разысціся з нагоды несанкцыянаванага шэсця перад нападам на калону Някляева. Што гэта, маўклівая згода ўладаў на незаконныя дзеянні ці спланаваная акцыя?

У адказах на пытанні абаронцы Парфянкоў неаднаразова падкрэсліў, што не чуў і заклікаў да беспарадкаў. Не бачыў ён ніякіх прадметаў, акрамя сцягоў на вудзілах у руках людзей. А ў матэрыялах справы пералічаны рэчы, якія былі знойдзены каля Дома ўрада. Рыдлёўка, сякера, ледасекі, лом, трубы, бутэлькі. Апошніх было каля двух дзясяткаў: з-пад гарэлкі, каньяку, піва. Але на ніводнай рэчы няма адбіткаў пальцаў, па якіх можна было б ідэнтыфікаваць чалавека.

Падчас прагляду відэа з плошчаў, Кастрычніцкай і Незалежнасці, з'явіліся новыя кадры, якіх у інтэрнэце да гэтага не было. Напрыклад, калі пачынае бегчы спецназ, аператар у цывільным пачынае выкрыкваць ім: «Свої, свої!», «ГУВД, ГУВД!»

У сваім апошнім слове Парфянкоў папрасіў суд не караць яго сурова. Ён сказаў, што не рабіў злачынства, а паддаўся настрою, некалькі разоў ударыў па агароджах і не нанёс шкоды.

Аднак суддзя не знайшла змякчальных абставінаў і прысудзіла 27-гадовага Васіля Парфянкова да чатырох гадоў пазбаўлення волі з адбыццём у калоніі строгага рэжыму. Хаця пракурор патрабаваў шэсць гадоў. Ён палічыў усе словы падсуднага хлуснёй.

Па словах праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які прысутнічаў на судзе, справу Парфянкова наўмысна нацягвалі на артыкул «масавыя беспарадкі». Ён лічыць, што яна хутчэй падыходзіць да адміністрацыйнай справы — «хуліганства». Адпаведна і пакаранне было б мякчэйшым.

Пасля абвяшчэння першага прысуду па справе 19 снежня з'явілася і міжнародная рэакцыя. Камісар па правах чалавека Германіі Маркус Лёнінг запатрабаваў спынення рэпрэсій і судовага пераследу апазіцыянераў у Беларусі.

Сваю заклапочанасць выказаў і старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс.

А намеснік афіцыйнага прадстаўніка дзярждэпартамента Марк Тонер заявіў: «Злучаныя Штаты выказваюць глыбокае шкадаванне ў сувязі з тым, што ўрад Беларусі распачаў першы судовы працэс над затрыманымі за ўдзел у пратэсце 19 снежня. Мы і многія іншыя ў міжнароднай супольнасці заклікалі да неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх затрыманых і настойваем на спыненні пераследу грамадзянскай супольнасці, незалежных СМІ і палітычнай апазіцыі».

Выказаўся і Аляксандр Лукашэнка. «Пляваць я хацеў на ўсе іх каментары. Гэта злыя і непрыстойныя людзі. З імі нельга ні размаўляць, ні выбудоўваць адносіны. Тым больш я сёння абсалютна ведаю і ўпэўнены, што яны хацелі ад Беларусі. Яны правалілі тут усё. Праваліўшы, яны сёння пачынаюць, для таго каб апраўдацца, лямантаваць на ўвесь свет, што тут ледзь не вязні палітычныя». І дадаў, што «ніякіх вязняў тут няма, звычайныя крымінальнікі, былыя зняволеныя і не па адным разе».

**Сяргей Макарэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Што вядома пра Васіля Парфянкова?**

Падчас выбараў-2010 ён супрацоўнічаў з кампаніяй «Гавары праўду!», быў актывістам штаба Уладзіміра Някляева.

З 2001 па 2005 Васіль быў сябрам «Зубра» ды «Маладога фронту», удзельнічаў ва ўкраінскім Майдане. Быў удзельнікам абароны Курапатаў у 2001—2002.

Ён трымаецца адкрыта радыкальных поглядаў і ў часе следства адкрыта прызнаў сваю віну. Напэўна, менавіта гэта стала прычынай таго, што яго судзяць першым.

# Суддзі Вользе Комар зладзілі абструкцыю ў сацыяльных сетках

Яна ўступіла ў палеміку, а потым закрыла доступ да сваіх старонак.


SVABODA.ORG

Суддзю Вольгу Комар, якая вынесла першы крымінальны прысуд па справе аб «беспарадках» 19 снежня, пазналі яе былыя сябры. Як выявілася, яна выпускніца знакамітага, пазней забароненага Коласаўскага ліцэя.

Разгарэлася дыскусія, у якую ўключылася і сама Вольга Комар (у дзявоцтве — Канойка). Вось што яна напісала на Фэйсбуку ў адказ на адно рэзка крытычнае выказванне: «Я прачытала спасылку тваю, Надзя, вялікі табе дзякуй, што ты салідарная з гэтымі выдатнымі дэмакратычнымі маладымі людзьмі і не вельмі. Я рада, што ты і яшчэ нейкая колькасць людзей жадаюць, каб вырвалі руку мне, маім дзецям і бацькам. Галоўнае, што гэта ўсё вельмі ў духу дэмакратыі.

Герой Беларусі — чалавек, які неаднаразова судзімы за дробныя крадзяжы, а таксама знішчэнне маёмасці асабліва небяспечным спосабам, шляхам падпалу, які адбывае ўжо пакаранне ў месцах пазбаўлення волі. Гэта твой ідэал? Наперад, Надзя. Толькі не забудзь, што маю асабістую інфармацыю, фатаграфіі без маёй згоды не варта размяшчаць у інтэрнэце. Я кіруюся законам, і толькі».

Гэтыя словы толькі падлілі алею ў агонь.

Вось што напісаў блогер Уладзімір Бараніч: «Яна яшчэ і ганарыцца сваім учынкам. Казалі, што прысуд быў вынесены ў Адміністрацыі прэзідэнта. А тут усё добраахвотна і з вялікім імпэтам. Такія могуць саджаць, забіваць, катаваць. Без прымусу, з пачуццём сваёй карысці. І на вачах усяго свету (інтэрнэт). Жудасць».

Рамуальд Улан са Смаргоні: «Шмат цяпер людзей камунікуюць у сацыяльных сетках — няхай ведаюць меркаванне людзей пра сябе!»

Перакладчык Сяргей Сматрычэнка: «А чаму б ёй не засудзіць яшчэ аднаго выпускніка нашага ліцэя — Алеся Міхалевіча? Вяршыняй было б, калі б працэс адбываўся ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска (Кірава, 21). [У 2003-м ліцэй быў афіцыйна ліквідаваны, а ў будынку зрабілі суд]».

Гісторык Ірына Кашталян, аднагрупніца Комар па Коласаўскім ліцэі: «Канойка была, як мне помніцца, вельмі амбітнай».

Пазней суддзя зрабіла звесткі пра сябе на Фэйсбуку і ў «Аднакласніках» даступнымі толькі для сяброў.

**Сямён Печанко**

**Сацыяльныя сеткі**

супольнасці па інтарэсах у інтэрнэце. Знаёмыя аб'ядноўваюцца ў групы па інтарэсах і дзеляцца інфармацыяй, камунікуюць, кантачаць. Шырокую вядомасць набылі сацыяльныя сеткі былых аднакласнікаў, землякоў і г.д.

# Макей згадваецца ў «нататніках Беразоўскага»

У Расіі пачаўся буйны скандал, які можа перакінуцца на Беларусь.

Расійскія сілавікі заявілі пра раскрыццё сеткі падпольных казіно, сляды ад якой вядуць да Барыса Абрамовіча Беразоўскага. І пра захоп шматлікіх дакументаў.

14 лютага расійская міліцыя заявіла пра раскрыццё сеткі падпольных казіно ў Маскоўскай вобласці. Скандал стаў абрастаць падрабязнасцямі. Аказалася, што сетку крышаваў намеснік пракурора вобласці. Арганізатарам сеткі выступаў нейкі Іван Назараў. У гэтага 30-гадовага дзялка сканфіскавана шмат каштоўнасцяў і дакументаў. Міліцыя пайшла па ланцужку абшукваць офісы бізнэсоўца. У яго цэнтральным офісе ў галерэі «Трыумф» у цэнтры Масквы знайшліся карціны Пікаса і Рэмбрандта агульным коштам звыш пяці мільёнаў даляраў.

Тамсама было больш за 60 пячатак фірмаў-аднадзёнак, а таксама цэлыя стосы дакументаў, якія следства звязвае са збеглым алігархам Барысам Беразоўскім. У гэтым жа памяшканні раней змяшчаўся Дом прыёмаў кампаніі Беразоўскага, што называлася «Логоваз».

Што цікава, частка гэтых дакументаў адразу трапіла ў СМІ. Іх апублікавала «Комсомольская правда». Гэта паказвае, што за скандалам можа нешта стаяць. І што таксама цікава — частка апублікаваных дакументаў датычыць Беларусі.

У прыватнасці, выяўлены нататнік. Паводле «Комсомольской правды», ён мог належаць самому Беразоўскаму. Але аналіз даступных старонак з яго сведчыць хутчэй пра тое, што ім мог карыстацца Назараў ці іншая даверaная асоба збеглага алігарха. «Узнать для Борі», — гаворыць адзін з запісаў.

На адной з апублікаваных старонак ёсць выразныя занатоўкі, дзе згадваецца Макей (прозвішча супадае з прозвішчам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, які лічыцца лідарам празаходняй групоўкі ў атачэнні Лукашэнкі). Побач згадваюцца «Белнафтахім», адносіны Беларусі з Грузіяй і Клаўс Мангольд – кіраўнік Усходняга камітэта нямецкай эканомікі, які бываў у Мінску. На другой старонцы ў ліку аперацый у краінах былога СССР згадваецца пасёлак у Мінску.

Аператыўнікі адзначаюць, што многія знойдзеныя паперы Барыса Беразоўскага (які цяпер жыве пад новым іменем Платон Яленін) датаваныя канцом 2010 года. Нагадаем, з 20 верасня 2001 года ён знаходзіцца ў вышуку ў РФ і афіцыйна пражывае ў Лондане.

Па словах былога вязня беларускага КДБ амерыканскага адваката Эмануіла Зельцэра, Беразоўскі асабіста ўдзельнічаў у судзе над ім два гады таму. Фільм НТВ «Хросны бацька» гаварыў пра сувязі між Лукашэнкам і Беразоўскім.

Падчас выступу ў Раўбічах 19 лютага Лукашэнка апантана даводзіў, што «ўпершыню чуе» пра гэта, але адразу перайшоў да аналізу: «Беразоўскі ж у Расіі не жыве, наколькі я ведаю. Памойму, гэта чарговая качка, камусьці патрэбная ў Расіі, каб яшчэ раз паказаць, што Бацька не тым займаецца. Гэта абсалютная хлусня. Я ў гэта не веру».




Цяжка сказаць, ці сапраўдныя гэтыя дакументы. Калі яны праўдзівыя, гэта сведчыць пра сувязі найвышэйшых беларускіх чыноўнікаў з сумнеўнымі дзялкамі. Калі яны сфальшаваныя, гэта азначае шматхадовую камбінацыю расійскіх спецслужбаў, скіраваную супраць кіраўнікоў Беларусі. У кожным разе, іх публікацыя — гэта ўдар па рэпутацыі Уладзіміра Макея і Аляксандра Лукашэнкі.

**Мікола Бугай**

## Шыла на мыла, а быка на індыка

«Саманд» закрываецца. Новая ідэя-фікс урада — збіраць у Беларусі кітайскія аўто.



**«Фальксвагенаў» не будзе, пасадзяць на кітайцаў.**

Беларускі ўрад адмаўляецца ад далейшай зборкі іранскіх аўтамабіляў. Пра гэта заявіў першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка: «Мы надзвычай незадаволеныя дзейнасцю гэтага прадпрыемства. За пяць год працы прададзена ўсяго тысяча аўтамабіляў. Дый то пад маім асабістым ціскам на дзяржаўныя структуры. І якасць у гэтага аўтамабіля не вельмі, і цана высокая. Мы ставілі пытанне перад іранцамі, каб арганізаваць у нас вытворчасць па афарбоўцы і зварцы кузаваў, што дазволіла б зменшыць цану. Прайшоў сход акцыянераў, але яны не дамовіліся».

Развітаўшыся з іранцамі, беларускія чыноўнікі вырашылі дамовіцца з кітайцамі. «Мы ўжо пачалі перамовы на гэты конт з дзвюма кітайскімі фірмамі», — прызнаўся Сямашка. Адна з іх — досыць вядомая Cherry. Такія машыны ўжо катаюцца па Мінску. Кошт пры беларускай зборцы не павінен перавышаць $8-9 тысяч.

**ВН**

## «У Лівіі ўсё спакойна, дактары ў бяспецы»

Набор беларускіх дактароў і сярэдняга медперсаналу ў Лівію часова прыпынены.

Кампанія «Джэтэкспа» — адна з тых, што працаўладкоўвае беларускіх спецыялістаў за мяжой. Папулярныя накірункі — Лівія, ААЭ, Бахрэйн. Перавага Лівіі ў тым, што для працы не патрабуецца веданне замежнай мовы. Дый заробкі нашмат вышэйшыя за беларускія. Беларускі доктар зарабляе ад $1500 да $2700 штомесяц, а медсёстры — ад $800 да $1000.

Палітычныя падзеі апошніх дзён прымусілі задумацца, ці праводзіцца далейшы набор дактароў і што з тымі, хто ўжо з'ехаў у ахопленую паўстаннем арабскую краіну.

У «Джэтэкспа» паведамляюць, што набор новых медыкаў, вядома ж, прыпынены. Разам з тым, эвакуацыя нашых спецыялістаў не праводзіцца. Беларускае пасольства ў сталіцы Лівіі Трыпалі запэўнівае, што цалкам трымае сітуацыю пад кантролем. Медыкі жывуць і працуюць у гарадку Гадамес на самай мяжы з Алжырам і Тунісам. Датуль рэвалюцыя яшчэ не дакацілася.

**Віталь Несцераў**

## Жонку Лужкова вінавацяць у крадзяжы 13 мільярдаў

Будаўніцтва «Мінск-сіці» спынілася.

17 лютага ў офісах ААТ «Банк Масквы», АКБ «Рускі зямельны банк», ЗАТ «Кузнецкі мост дэвэлапмент», ЗАТ «Інтэка» і па месцы жыхарства кіраўнікоў ЗАТ «Банк Масквы» былі праведзеныяператрусы.

Вынікам следчых мерапрыемстваў у рамках расследавання справы аб крадзяжы шляхам махлярства сродкаў, выдзеленых «Банку Масквы» сталічным урадам, стала выяўленне 13 мільярдаў рублёў на асабістым рахунку кіраўніка будаўнічай кампаніі «Інтэка» і жонкі экс-мэра Масквы Юрыя Лужкова Алены Батурынай. Пра гэта паведамілі ўсе расійскія СМІ.

«Устаноўлена, што неўпаўнаважаныя асобы з ліку супрацоўнікаў АКБ «Банк Масквы» сумесна з супрацоўнікамі ЗАТ «Прэм'ер Эстейт» здзейснілі махлярства шляхам атрымання крэдыту ў памеры каля 13 мільярдаў рублёў», — гаворыцца ў паведамленні Следчага камітэта Міністэрства ўнутраных спраў Расіі.

«Прызначэнне крэдыту — папаўненне абаротных сродкаў ЗАТ «Прэм'ер Эстейт». Аднак пасля сродкі, атрыманыя па крэдыце, былі пералічаныя на асабісты рахунак Батурынай», — заявілі следчыя. Самі ж грошы «Банку Масквы» выдзеліў урад горада, калі ім яшчэ кіраваў Юрый Лужкоў.

Юрый Лужкоў блізка сябраваў з Аляксандрам Лукашэнкам. Ён не раз выказваўся ў падтрымку лукашэнкаўскай палітыкі. «Інтэка» Батурынай аддалі для забудовы дарагі кавалак зямлі на захадзе Мінска. Была інфармацыя і пра сувязь Лужковых з праектам пабудовы «Мінск-сіці» на месцы былога аэрапорта. З жонкай Лужкова звязвалі кампанію «Ітэра дэвелапмент груп», якой лукашэнкаўцы аддалі права забудовы. Фінансавы крызіс паставіў на планах крыж.

А пасля апалы Лужкоў і Батурына аселі не ў Мінску, а ў Вене.

**Сяргей Гезгала**




**Мікалай Церавяйнен з жонкай.**

## У Мёрскім раёне з'явіўся мільярдэр

Рэкордны ў гісторыі Беларусі выйгрыш у «Суперлато»: два мільярды.

Жыхар вёскі Зачарэўе Мёрскага раёна Мікалай Церавяйнен выйграў у «Суперлато» два мільярды рублёў. 22 лютага ў Мінску яму ўрачыста ўручылі выйгрыш.

Мікалай — пенсіянер. Ён грамадзянін Расіі, у Беларусі мае від на жыхарства. У Зачарэўе, на радзіму маці, пераехаў жыць толькі паўтара года таму. Да таго жыў у Карэліі, працаваў у лясной гаспадарцы. Разам з ім у Беларусь прыехалі жонка і сын. Яшчэ тры дарослыя сыны засталіся жыць у Расіі.

Частку выйгрышу Церавяйнен пералічыў на дабрачынныя мэты: дваццаць мільёнаў рублёў Перабродскай школе-саду і па дзесяць мільёнаў — Перабродскай царкве і Дзісненскаму дзіцячаму дому. На рэшту выйгрышу Мікалай збіраецца паднавіць свой хутар, а таксама памагчы сынам.

**Кастусь Матушыч**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн. Рэвалюцыйная Балівія

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта Кірыла Краўцоў — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта Аўгіня Манцэвіч — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта Верасень — аператар, гітарыст.


Ла-Пас — сталіца Балівіі.

**Працяг. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2—7 за 2011.**

## Беларускія Каляды ў балівійскай вёсцы

У балівійскую вёсачку Карані Пампа, што схавалася ў джунглях паміж гор і дзе жыве каля чатырохсот чалавек, мы прыехалі ў грузавіку ўжо зацемна. Нас высадзілі каля адной з хатаў.

Мясцовыя жыхары выйшлі на двор і з цікавасцю разглядалі трох «грынгаў» з інструментамі і табурэткай, якія невядома нашто прыехалі ў гэты забыты Богам куток. Нядоўга думаючы, мы раскрылі футаралы і сыгралі для індзейцаў пару беларускіх песняў.

Тут жа нас прытулілі на ноч, а наступнай раніцай павялі да дырыгентаў (г.зн. старастаў) вёскі. Хаты дырыгентаў апынуліся ледзь не самымі беднымі ў мястэчку. Нас уважліва выслухалі, з усёй моцы спрабуючы зразумець, чаму мы хочам зрабіць фестываль менавіта ў гэтым месцы. А пасля моцна пацiснулі рукі і сказалі: «Дзякуй за падтрымку». І выдзелілі для жылля і правядзення фэсту найлепшую пляцоўку — мясцовую школу.

Наступныя дні мы рыхтаваліся да фестывалю. На жаль, па незразумелых мне прычынах, акрамя мяне, Верасня ды Калюні, на фэст ніхто з табурэтнікаў больш не прыехаў. І ўсе Каляды нам давялося рыхтаваць і ладзіць утрох.

Вучылі напісаныя на дошцы словы калядных песняў і запівалі іх мясцовым віно дульсэ.

Праводзіць нашыя Каляды ў Балівіі было рызыкоўна не столькі праз моўную праблему, колькі праз ментальную. Мы баяліся, што мясцовыя не зразумеюць нашых калядак і мы нічога не накалядуем. Таму нашая Калюня-каза пасля песняў і плясак пачынала паміраць, і, каб выратаваць казу, гаспадары павінны былі яе чымсьці пачаставаць.

Калюня хоць і не капоэйрыст, аднак вырабляў такія фінты, што ў першай жа хаце нас траіх накармілі смачнючым супам. І мы нават пашкадавалі, што паелі перад калядкамі.

Аднак далей было не ўсё так проста. У наступнай хаце каза атрымала ад гаспадароў адну цукерку. «Ну, хто ж так частуе калядоўнікаў?» — думалі мы. — «К'еро мас» (хачу яшчэ), — корчыўся ў муках на падлозе Калюня. Так мы выйшлі з хаты з трыма цукеркамі.

Такім чынам, за вечар мы накалядавалі: тры талеркі супу, тры цукеркі, адну пячэньку, булку, пакет варанай у лупінах бульбы і кавалак сыру.

Наступны дзень пачаўся з гульняў для дзяцей. Мы перажывалі: хто прыйдзе на фэст а 12-й? Але дзеці прыйшлі нават раней і выцягнулі нас на двор. Найбольш яны ўпадабалі «Ручаёк». Некаторыя хлопцы цягнулі за руку аж па дзве дзяўчыны, не задавольваючыся адною. Задыхаючыся, скакалі праз шланг, гуляючы ў «Рыбака і рыбку». Аднак нават выбыўшы, вярталіся ў кола.

Нягледзячы на тое, што выставу праводзіў адзін Калюня з дапамогай Верасня, дзеці рваліся пець і танцаваць. А ў канцы нават паміраць. Ды так праўдападобна, што Калюня нават кінуўся рабіць адной дзяўчынцы штучнае дыханне.

Затым мы гатавалі боршч у пазычанай у мясцовых жыхароў каструлі. Ізноў жа баяліся, што сорак літраў прыгатаванага супу так і застанецца ў каструлі. Аднак госці фэсту ўсё прыбывалі, а Калюня з Вераснем прыцягвалі ўсё новыя і новыя сталы ды крэслы. Госці ўмялі сорак літраў баршчу менш як за гадзіну. Некаторыя па дзесяць разоў прасілі дабаўкі. І сытыя ўселіся слухаць нашыя песні.

Гэта быў першы наш фэст, пасля якога яго госці не хацелі нас адпускаць.

Яны, удзячныя, таксама зрабілі нам падарункі.

Людзі там вельмі рэлігійныя. Евангелістаў чамусьці называюць хрысціянамі. А каталікі для іх не хрысціяне, а проста каталікі.

## Самая танная краіна

Балівія — самая танная краіна на нашым шляху. Так, сустрэча тут Новага года на беразе возера Тытыкака абышлася нам менш чым у 20 баксаў. А гэта і хостэл, і шампанскае, і нават некалькі відаў салатаў.

Дарэчы, беларускі і ўкраінскі Новы год застаў нас на нейтральнай паласе паміж Перу і Балівіяй. Мы як сапраўдныя патрыёты выпілі заныканы Калюнем ром пад куранты яго ж айфона і пад радасныя крыкі кінуліся абдымаць адно аднаго.

Аднак не ўсе раздзялілі нашую радасць. Аказваецца, за 10 метраў ад нас у кустах дзве перуанкі заныкалі кантрабандны бензін з Балівіі. На нашыя крыкі выбег памежнік і папаліў кантрабандыстак. Некалькі купюраў у кішэню памежніку — і бензін у Перу.

Паліва ў Балівіі вельмі таннае — каля паловы бакса за літр. Відаць, таму і аўтобусы тут капеечныя. Дарэчы, калі мы прыехалі сюды, тут якраз ішла забастоўка кіроўцаў. Не хадзіў ні грамадскі, ні прыватны транспарт. Так балівійцы пратэставалі супраць павышэння цэнаў на бензін. І ведаеце што, менш чым праз тыдзень урад вярнуў папярэднія цэны.

Есці ў Балівіі таксама можна хоць пяць разоў на дзень. Абед з супам, другім і дэсертам каштуе 1,5-2 баксы. У хостэле (алахам'ента, як яны тут называюцца) можна пераначаваць за 2-3 баксы.

## Маралес — народны прэзідэнт

Балівія — адзіная краіна ў Лацінскай Амерыцы, прэзідэнт якой — чыстакроўны індзеец. Эва Маралеса тут падтрымлівае большасць насельніцтва, пра што сведчаць шматлікія надпісы на платах, сценах дамоў. Тут паўсюль замест звыклага нам слова з трох літараў пішуць іншае слова з трох літараў — «Эва».

Зайшлі неяк у паліцыю, шукаючы начлег. А там за кратамі вязні, а на падлозе сушыцца кока.

Самі балівійцы — вельмі дзіўныя людзі. Яны глядзяць на цябе, крыху прымружыўшыся, ледзь пасміхаюцца і не спяшаюцца адказваць на тваё пытанне. Такое ўражанне, што яны даўно ўжо штосьці зразумелі, але расказаць не могуць. Толькі пасылаюць сігналы з таго боку. Яны ніколі не адмовяць у дапамозе. Тут заўсёды ёсць дзе паспаць і што з'есці.

Аднак балівійцы не ўпусцяць шанец падмануць цябе на грошы. Таму, калі за штосьці яны просяць 15 балівіянаў, трэба абавязкова спытаць: «А за 7 можна?» І яны тут жа, не гандлюючыся, спакойна скажуць: «Можна».

## Салёны лёд

Тое, што на саланчак Уюні, самы вялікі ў свеце, патрапіць амаль немагчыма, нам расказаў Кірыла. Маўляў, транспарт туды не ездзіць і людзі там не жывуць. Так што мала таго, што туды не даехаць аўтаспынам, дык яшчэ і начаваць не будзе дзе. Свежанькія табурэтнікі літоўка Вайда і француз П'ер, якія толькі месяц таму далучыліся да нас у Перу, заплацілі тураператару па 100 баксаў на чалавека.

Аднак мне так хацелася пабачыць саланчак, што я пацягнула за сабой Верасня і Калюню. І мы адправіліся аўтаспынам з Качабамбы на Уюні.

Машыны не спыняліся. Гадзіны тры мы стаялі ў адным месцы, пакуль нарэшце перад намі не стаў пікап. «Я туды не еду, але да бліжэйшага гарадка Арура за асобную плату магу вас падвезці», — адказаў вадзіла на маю просьбу. «За асобную плату» ехаць не хацелася, і я напрасілася падвезці нас хаця б крыху, пакуль нам па дарозе.

Па дарозе нам аказалася да Арура. Вылезшы з машыны, кіроўца сказаў, што яны з жонкай таксама едуць на саланчак паглядзець, зрабіць пару фотак. І вяртаюцца дадому. Што можа быць лепш для нас? Нашы жаданні супалі, а яшчэ і намеціўся транспарт туды і назад. Бо нават калі б мы даехалі да любой вёскі ля саланчака, тупаць на само возера давялося б паўдня.

Ноч мы правялі ў Арура і раніцай выйшлі на прызначанае месца, каб сустрэцца з учорашняй парачкай і працягнуць шлях на саланчак. Аднак, з'явіўшыся, яны з жалем зазначылі, што да саланчака яшчэ 250 км, а грошай на бензін у іх няма. Так што паедзем толькі да возера Паопа.

Аднак і да возера Паопа мы не даехалі. Доўга блукаўшы па пустыні, мы сустрэлі мясцовую жанчыну, якая сказала, што возера высахла. Мы з Вераснем і Калюнем засталіся стопіць. Нашыя спадарожнікі развярнуліся ў бок Качабамбы.

Праз нейкі час асфальт на дарозе скончыўся. Яшчэ некалькі гадзінаў мы ехалі, змяняючы грузавікі, і ўсё больш абрасталі пылам. Урэшце, усе пыльныя, потныя і стомленыя, мы апынуліся пасярод пустыні перад дзвюма развілкамі, дзе за




**Аўгіня Манцэвіч**
нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**
Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**
Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.



Праграма беларускіх Калядаў у Балівіі.


Старайся, каза!


…І выстаралася. Шчодры вечар, багаты вечар!


Белая моўчнасць.


Балівійскія дарогі.


Паром на возеры Тытыкака.



Балівійскі туалет.


За 10 метраў ад нас мытнікі залавілі кантрабандыстак з бензінам.



На вуліцах Балівіі часта можна сустрэць людзей у масках. Гэта чысцільшчыкі абутку ратуюць ад дыскрэдытацыі сябе і сваю сям'ю. Сёння ён можа чысціць абутак, а заўтра пайсці ў дэпутаты.


Соль чакае загрузкі.


У народнай медыцыне балівійцы шырока выкарыстоўваюць эмбрыёны розных жывёлаў.


Беларускі боршч для балівійскіх дзетак.

гадзіну не праехала ніводнай машыны.

Мы пачалі ўжо думаць, у якім месцы выкапаць яму для начлегу, як перад намі з'явіўся грузавік. Мы глядзелі на кіроўцу як на выратавальніка. «Дзядзечка, мы едзем на саланчак, але нам бы хоць куды». «Я таксама еду на саланчак», — адказаў той. І мы, шчаслівыя, загрузіліся ў пусты кузаў.

Пясчаная дарога скончылася і пачалося пясчанае бездаражжа. Затым у засохлых лужынах пачала віднецца соль. На градках, што праплывалі паўз нас, у акуратных сіметрычных ямках расла лебяда. Сонца села і машына спынілася.

На вуліцы ўжо стаяў індзеец з кокай за шчакой і ўважліва глядзеў на нас.

— Куды вы едзеце?

— Сюды.

Крыху памаўчаўшы, індзеец працягнуў:

— А дзе будзеце начаваць?

— Тут.

— Але тут няма алахам'ента.

Мы азірнуліся. Каля дзясятка разваленых хатаў, пабудаваных з пяску, прыціснуліся да падножжа гары. З першага погляду бачна — месца глухое, дзікае. І тут не тое што алахам'ента, а нават крамы ці школы не знайсці. Скрыпка і гітара заўсёды дапамагалі ў такіх выпадках. І гэты выпадак — не выключэнне. Ужо праз гадзіну ў адной з хатаў вёскі Чуракары мы сцялілі свае дыванкі.

— Колькі ў гэтай вёсцы жыве чалавек? — пытаюся я ў нашага новага сябра.

— Поко (крыху), — адказвае той.

— Крыху — гэта колькі: 10, 20, 100?

— Не, — смяецца і пачынае лічыць у галаве. — Восем.

Гэтай ноччу наш кіроўца разам з мужчынскай паловай насельніцтва вёскі (а гэта ўсяго тры чалавекі) мусіць ехаць на саланчак, які схаваўся за гарою, загружаць машыну соллю. Каб потым ачысціць яе, расфасаваць па пакецiках і прадаваць руплівым гаспадыням. Сустрэць світанак на Уюні выклікаліся і мы.

А трэцяй ночы мы выйшлі з хаты. Чыстае неба, не засветленае гарадскімі ліхтарамі, ззяла мільёнамі зорак. Лежачы ў пакуль пустым грузавіку на спіне і назіраючы за незнаёмымі зоркамі паўднёвага паўшар'я, мы даехалі да саланчака.

Тое, што мы пабачылі, выглянуўшы з-за бартоў машыны, не апісаць ні словамі, ні фотаздымкамі. Мы выскачылі з грузавіка і, пакінуўшы мужчынаў загружацца соллю, пахлюпалі наперад.

## Белая пустыня

Чым вышэй падымалася сонца, тым лепш станавілася бачна. Вакол нас было вялізнае белае возера. Па звычцы, якую набылі яшчэ з дзяцінства, мы акуратна ступалі па паверхні, каб не праваліцца. Аднак пад намі быў не лёд, а соль. І як ні скачы, яна не праваліцца. Мы падалі на калені і лізалі салёную-салёную зямлю.

Больш за тры гадзіны мы блукалі па возеры. І калі вярнуліся да машыны, сонца было ўжо высока і, адлюстроўваючыся з усіх бакоў, нешчадна паліла. Мы зразумелі, навошта сюды прыязджаць уначы. Працаўнікі заканчвалі загрузку.

Стомленыя, брудныя, пыльныя, падгарэлыя, сонныя і салёныя, але неверагодна шчаслівыя, мы раскінуліся ў грузавіку, поўным солі, і рушылі ў адваротны шлях.

**Працяг будзе.**

Сачы за падарожжам.

# Гісторыя Беларусі. Частка XV. Хрост: розныя вектары

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год, № 6.**

## Трансфармацыя сям'і

Праваслаўныя аўтары адзначаюць сур'ёзныя змены ў сферы маралі і адносін паміж людзьмі, якія наступілі пасля прыняцця хросту. З гістарычных крыніц мы ведаем, якія жорсткія супярэчнасці паміж паганскімі звычаямі і царкоўным правам узніклі за сто гадоў да хрышчэння Русі Уладзімірам падчас хрысціянізацыі Вялікай Маравіі. (Гэтая тэма будзе падрабязней асветленая пры апісанні дзейнасці Святых Кірылы і Мяфода). У любым выпадку, і кіеўскі князь мусіў змяніць сваё матрыманіяльнае становішча.

«Аповесць мінулых часоў» такім чынам апісвае лад жыцця Уладзіміра да хросту: «Быў жа Уладзімір у палоне юру»; утрымліваў наложніц «300 у Вышгарадзе, 300 у Белгарадзе і 200 на Берастове, у сяльцы, якое называюць цяпер Берастовае. І быў ён прагны ў блудзе, прыводзячы да сябе замужніх жанчын ды разбэшчваючы дзяўчат».

Вядома, гэтыя лічбы можна спісаць на перабольшанні летапісца, але толькі афіцыйных жонак, паводле паганскага абраду, князь меў пяць. Як вялікі распуснік (па-лацінску fornicator maximus) Уладзімір да хросту быў вядомы і нямецкаму аўтару Тытмару Мерзебургскаму (975—1018), які ў сваёй «Хроніцы» апісаў многія падзеі і па гісторыі Русі X — пачатку XI стагоддзяў. Калі ж адмовіцца ад маралізатарства, так пройгрышнага пры спробе погляду на мінулае з перспектывы пазнейшых стагоддзяў, а то і тысячагоддзяў, то ўсё роўна трэба прызнаць, што манагамнасць сям'і ва Усходняй Еўропе была юрыдычна замацаваная з прыняццем хрысціянства, і гэта норма вядомая нам па сёння.

Пасля хросту князь Уладзімір вызваліў ад шлюбных абавязкаў усіх сваіх язычніцкіх жонак. Полацкай князёўне Рагнедзе было прапанавана абраць мужа са свайго атачэння. Рагнеда ганарліва («Царыцай была, а рабыняй быць не хачу») адмовілася ад такой прапановы і была высланая разам з сынам Ізяславам у нядаўна збудаваны замак Ізяслаўль (Заслаўе) на самай мяжы дрыгавіцкай і крывіцкай тэрыторый. У познім Цвярскім летапісе (1534) сцвярджаецца, што прысутны пры той размове Уладзіміра з Рагнедай іхні сын Яраслаў, які ў будучым атрымае азначэнне Мудры, быў так уражаны гэтай размовай, што ўскочыў, вылечыўшыся ад паралюшу ног.

Паводле таго ж Цвярскога летапісу, Рагнеда прыняла манаскі пострыг пад імем Настасся і стала першай з тутэйшых манашак. Адсюль пайшлі яшчэ больш пазнейшыя легенды пра тое, што ў Ізяслаўлі для Рагнеды быў заснаваны манастыр, але гэтыя звесткі не маюць пацверджання ў крыніцах. Затое пра ролю ў хрысціянізацыі Полаччыны Ізяслава — сына Рагнеды і Уладзіміра — мы можам казаць больш пэўна.

## Ізяслаў — князь-аднаўляльнік

Праўдападобна, заслаўская ссылка Ізяслава доўжылася не надта доўга, бо Уладзімір у 989 г. «пасадзіў» свайго сына на княжанне ў Полацк — гэта адбывалася ў рамках палітыкі кіеўскага князя па распаўсюджванні новай адміністратыўнай сістэмы шляхам раздачы ўдзелаў сваім дванаццаці сынам. Пры гэтым удзел трэба разумець як долю канкрэтнага прадстаўніка княскага роду ў агульным родавым уладанні. Што ж, Полацк гвалтоўна быў захоплены Уладзімірам у 980 г. і потым увайшоў у склад Кіеўскай дзяржавы. Таму Уладзімір ім і распараджаўся. Але ў выніку з вяртаннем Рагнеды і Ізяслава ў Полацку аднавілася, а калі казаць генеалагічна больш дакладна, была створаная мясцовая княская дынастыя Ізяславічаў. Не да канца зразумелымі застаюцца тут матывы Уладзіміра. Зрэшты, свайму сыну ён мусіў даць удзел.

Ізяслаў прыняў хрост разам з усімі сваімі братамі і сёстрамі. Мы не ведаем, хто займаўся яго рэлігійным выхаваннем, але ў летапісную традыцыю XVI ст. ён увайшоў як князь «ціхі і лагодны», любіў і шанаваў царкву.

З іменем Ізяслава звязаная таксама адна вельмі важная археалагічная знаходка. У 1954 г. падчас раскопак у Ноўгарадзе была знойдзена пячатка Ізяслава Полацкага. Гэта найстаражытнейшы помнік кірылічнага пісьменства і найстаражытнейшая пячатка ва Усходняй Еўропе!

Родавы трызубец Рурыкавічаў на пячатцы Ізяслава мае характэрную адметнасць — цэнтральны зубец завершаны крыжыкам. Імя князя пададзена архаічнай формай кірыліцы, але ў грэцкім гучанні NZACΛAOZO, што ілюструе вырашальны ўдзел грэкаў у ранняй стадыі хрысціянізацыі і пашырэння асветы ва Усходняй Еўропе.

Ізяслаў памёр ў 1001 г., праз год пасля сваёй маці. Мы не ведаем імя жонкі полацкага князя, але ў яго засталіся два сыны — Усяслаў і Брачыслаў. Гэтым звесткі пра Ізяслава і вычэрпваюцца. Але дзве дэталі: тое, што ён называецца кніжнікам, і такая фенаменальная знаходка, як пячатка Ізяслава, — сведчаць, што гэта быў князь ужо новага тыпу, аўтарытэт якога складаўся не толькі з вайсковых перамогаў. Тое, што пячатка князя была знойдзена ў Ноўгарадзе, сведчыць пра актыўную палітыку Ізяслава, да таго ж, абстаўленую хрысціянскай сімволікай.

Але як Уладзімір меў у Кіеве хрысціянскіх папярэднікаў, так і да Ізяслава ў Полацку ўжо дзейнічалі хрысціянскія місіянеры.

## Торвальд Вандроўнік — першы місіянер Полацка

Аповед пойдзе пра ісландскую «Сагу аб хрышчэнні» і ўключаную ў яе «Пасму аб Торвальдзе Вандроўніку». Цэнтральны сюжэт гэтых твораў, запісаных у XIII ст., — хрост Ісландыі, які адбыўся каля 1000 г., пазней за хрышчэнне Кіеўскай Русі. Адзін з герояў сагаў — ісландзец Торвальд, сын Кодрана, — у маладосці служыў у дацкага караля Свена па мянушцы Вілабароды ды ўдзельнічаў у ягоных нападах на Ірландыю і Валію.

У Ірландыі Торвальд і пазнаёміўся з хрысціянствам і ў 980 г. падаўся ў Саксонію, дзе прыняў хрост ад тамтэйшага біскупа Фрэдрыка. Разам з біскупам у 981 г. Торвальд адправіўся на радзіму, каб спрыяць місіі хрысціянізацыі свайго краю. Уласна на Торвальда і выпалі важныя абавязкі місіі, бо біскуп Фрэдрык не ведаў мовы краіны.

Першапачаткова справы місіі былі ўдалымі. Хрысціянства прынялі родзічы і суседзі Торвальда. Упершыню праз 106 гадоў ад часу засялення ў Ісландыі была збудавана царква. Але паганцы пачалі супраціў, і іх зброяй стаў жарт. Юнакі стваралі абразлівыя прыпеўкі аб прапаведніках, якія спявалі на кірмашах, кшталту: «Біскуп дзевяць дзетак нарадзіў, / Торвальд бацькам ім быў». Раз'юшаны Торвальд забіў двух насмешнікаў. У адказ суродзічы сабралі 240 чалавек, спалілі царкву і сядзібу Торвальда, забілі шмат хрысціянаў.

Абодвум місіянерам прыйшлося пакінуць краіну. Ісландзец жа прыняў рашэнне больш ніколі не вяртацца на Радзіму, «бо нельга быць упэўненым у тым, што ён ва ўсіх выпадках сцерпіць... выпады і крыўды ад сваіх суайчыннікаў». Менавіта тады Торвальд стаў Вандроўнікам, выправіўся ў Ерусалім, потым у Канстанцінопаль, дзе быў прыняты «вярхоўным конунгам» (імператарам).



Помнік Торвальду Вандроўніку ў Рэйк'явіку.

Далей «Пасма» паведамляе, што Торвальд быў накіраваны імператарам у Аўстрвеге («Усходні шлях» — так пазначаліся землі, што ляжалі на ўсход ад Скандынавіі і на ўсходніх берагах Балтыйскага мора), і цэсар зрабіў яго правадыром над усімі конунгамі ў Руцландзе і Гардарыцы (на Русі). Торвальд Кондрансан «ад самага пачатку пабудаваў там цудоўны манастыр побач з той бажніцай, якая прысвечана Яну Хрысціцелю. Ад тых часоў тое месца так і называецца паводле ягонага імя манастыром Торвальда. У тым манастыры ён і скончыў сваё жыццё, і там пахаваны. Той манастыр стаіць ля падэшвы высокай гары, якая называецца Дроўн».

«Сага аб хрышчэнні» ўдакладняе, што Торвальд дайшоў да Кэнугарда (Кіева), «што на ўсход уздоўж Няпра (Дняпра)», а памёр ён непадалёку ад Палтэск'і (Полацка): «Там ён пахаваны на адной гары каля царквы Яна Хрысціцеля, і яны называюць яго святым. Так казаў Бранд Вандроўнік». У пацвярджэнне гэтага паведамлення ў сазе прыводзіцца страфа скальда Бранда Вандроўніка:

Прыйшоў я туды,  
дзе Торвальду,  
сыну Кодрана,  
Хрыстос даруе супакой.  
Там ён пахаваны  
На высокай гары, уверх па Драўне,  
Каля царквы Яна.

Манастыр Яна Хрысціцеля (Прадвесніка) на Востраве ў Полацку, насупраць Сафіі, дакументальна фіксуецца ў пісьмовых крыніцах ад XIV ст. Некаторыя даследчыкі адносяць час яго ўзнікнення да XII ст., але рэшткі самога манастыра дагэтуль не знойдзены. Археалагічныя і геафізічныя даследаванні 1980-х гадоў вызначылі толькі месцы перспектыўных пошукаў. Увогуле ж, гісторыя з місіяй Торвальда ў Полацку выглядае вельмі верагоднай. Інфармацыю пра Торвальда змяшчаюць таксама розныя еўрапейскія хронікі, што дае ўсе падставы лічыць яго рэальнай гістарычнай асобай.

Паводле саг і хронік, можна рэканструяваць падзеі наступным чынам: у 986 г. Торвальд прыбыў у Полацк разам з памочнікам. Хтосьці з полацкіх варагаў дапамагаў місіянерам у перакладах на мясцовыя гаворкі. Місія была настолькі паспяховай, што Торвальд вырашыў застацца ў Полацку. Тут жа адбылася ягоная сустрэча з іншым вікінгам-хрысціянінам Улавам Трыгвасанам (969—1000). Гэты скандынаў са шляхетнага нарвежскага роду гадаваўся ў Ноўгарадзе, потым служыў у Кіеве. Пасля спаткання ў Полацку Улаў адправіўся на Бацькаўшчыну, дзе быў абраны каралём. Малады кароль хрысціў нарвежцаў і быў прызнаны першым святым ў Нарвегіі.

Але застаецца незразумелым знаходжанне ракі і гары Драўны (Drofn), пра якую неаднаразова паведамляюць сагі. Вядомая расійская скандынавістка Таццяна Джаксан, ідучы па слядах слыннага віцебскага гісторыка Аляксея Сапунова, выказала меркаванне, што гэтая скандынаўская назва можа быць звязаная з аб'ектамі, якія лакалізуюцца на Браслаўшчыне, — рака Друя, азёры Дрысвяты і Дрывяты. І ў тых жа краях, на адлегласці 6 км ад Браслава, на ўсходнім беразе возера Дзерба знаходзіцца ўнікальны аб'ект — гарадзішча Маскавічы, на якім археолагамі было выяўлена звыш 100 фрагментаў костак птушак і жывёл з нанесенымі на іх рунічнымі надпісамі. Джаксан мяркуе, што менавіта ля гэтага скандынаўскага паселішча і быў пахаваны Торвальд Вандроўнік.

Абапіраючыся на гісторыю Торвальда, беларускі даследчык Сяргей Тарасаў піша пра тое, што хрысціянства прыйшло ў Беларусь непасрэдна з Візантыі. Услед за ім стакгольмец Андрэй Катлярчук замацоўвае скандынаўскі напрамак пашырэння хрысціянства ў Беларусі. Ім актыўна пярэчыць праф. Эдуард Загарульскі.

## Вяртанне Торвальда

28 лютага 2005 г. у Рэйк'явіку прадстаўнік Рускай Праваслаўнай Царквы ў Германіі архіепіскап Клінскі Лонгін паводле ўказа патрыярха Алексія II уручыў прэзідэнту Ісландскай Рэспублікі Олавуру Рагнару Грымсану ордэн Святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра (II ступені). На цырымоніі ўручэння архіепіскап заявіў: «Святы роўнаапостальны князь Уладзімір, што хрысціў Русь, быў сучаснікам Торвальда Вандроўніка, хрысціянскага асветніка Ісландыі, які, паводле паданняў, не толькі пашыраў добрую вестку ў Ісландыі, але і заснаваў манастыр у імя Іаана Прадцечы каля рускага горада Полацка, што праіснаваў да XIV ст.».

У адказ прэзідэнт Грымсан праніклівa сказаў: «Я таксама надзвычай крануты тым, што ўручаная мне сёння высокая царкоўная ўзнагарода носіць імя вялікага рускага князя, які быў сучаснікам Торвальда Вандроўніка, асветніка Ісландыі. Я нарадзіўся непадалёку ад родных мясцін Торвальда, і маё дзяцінства было напоўненае паданнямі пра вялікага земляка, якія я чуў ад свайго дзеда».

Торвальд Вандроўнік вярнуўся ў Ісландыю. Нам застаецца толькі дачакацца, каб святы Торвальд вярнуўся яшчэ ў Полацк.



Пячатка Ізяслава, князя Полацкага (989—1001) — найстаражытнейшы помнік кірылічнага пісьменства ва Усходняй Еўропе.



Скандынаўскія руны на костках. Знойдзены падчас раскопак Людмілы Дучыц ў Маскавічах (Браслаўскі раён).

Пра драматычныя падзеі хрысціянізацыі ў Тураўскай зямлі і моўны пераварот Кірылы і Мяфода чытайце ў наступных выпусках «Гісторыі Беларусі».



БАТЭ згуляў унічыю 2:2 хатні паядынак з французскім ПСЖ. Хлопцы з Барысава двойчы вялі ў ліку, але так і не здолелі перамагчы парыжан. Дарэмна фанаты раздзяваліся да голага цела, каб падбадзёрыць любімую каманду. На двары было мінус 15.

## Тозік паказаў айпад

### Планшэтны камп'ютар коштам $600 віцэ-прэм'ер купіў у Кітаі.

Прапагандуючы ідэю ўкаранення планшэтных камп'ютараў у беларускіх школах, віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік паказаў у палаце прадстаўнікоў свой айпад — элітны кам'ютар амерыканскай кампаніі Apple, які з'явіўся ў продажы год таму. Яго чыноўнік прыдбаў падчас працы паслом у Кітаі.

«Такая мадэль каштуе $500—600, я яго з Кітая прывёз. Але калі мы прымем рашэнне і будзем яго ўкараняць у школы, тады трэба будзе развіваць вытворчасць у Беларусі ці, прынамсі, закупляць асноўныя складнікі — той жа «Інтэграл» можа збіраць планшэты. Ён будзе каштаваць у раёне $200», — расказаў А.Тозік.

Яшчэ адна тэма, якую віцэ-прэм'ер палымяна акцэнтаваў у «палатцы», — замежныя мовы. «Недапушчальна, калі краіна знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, калі яе эканоміка залежыць шмат у чым ад вонкавых рызыкаў, калі краіна не можа развівацца без прыцягнення замежных тэхналогій і інвестыцый, а практычна ўсе — і эканамічная, і кіраўнічая эліта — не валодаюць замежнымі мовамі!» — абураўся Тозік. І нагадаў задачу — да 2015 года ўсе выпускнікі павінны размаўляць на замежнай мове. Сам ён адзначыў, што разумее англійскую мову на дастатковым для зносінаў узроўні. Навучыўся, «калі праходзіў двухгадовыя курсы ў інязе». Калі Тозік працаваў у Кітаі, працоўныя моманты вырашаў па-англійску. А вось кітайскую вывучыў на такім узроўні — каб мог паразумецца ў краме ці рэстаране.

**ЯВ**

# 18-гадовы студэнт памёр у метро

### «Хуткая» дабіралася ў цэнтр Мінска дваццаць хвілін.

17 лютага прыблізна ў 15.30 проста на платформе станцыі метро «Кастрычніцкая» памёр малады хлопец. На вачах у людзей яму стала кепска.

«Гэты малады чалавек пабялеў і памёр у нас на вачах, — расказаў чалавек, які патэлефанаваў у Рэдакцыю «Нашай Нівы». — Проста ляжаў на платформе і паміраў. Тры цягнікі праехалі, я ў кожным пытаўся, ці ёсць дактары... А дзяжурнаму міліцыянеру і дзяжурнай па станцыі нібы ўсё адно было», — наракаў сведка.

Персанал станцыі выклікаў «хуткую», але яна дабіралася да месца здарэння дваццаць хвілінаў. Хлопца тым часам спрабавалі ратаваць дзве доктаркі, якія знайшліся сярод пасажыраў. Яны рабілі хлопцу масаж сэрца, але гэта не дапамагло.

Праз 20 хвілін прыехала «хуткая». Пабачыўшы пацярпелага, дактары адразу выклікалі рэанімацыю. І тая таксама прыехала зусім не адразу...

Як высветлілася ўвечары таго ж дня, 18-гадовы студэнт Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Раман Какарук родам са Светлагорска, вучыўся на другім курсе факультэта інфармацыйных тэхналогій і робататэхнікі.

Аднагрупнік Рамана напісаў у каментарах у інтэрнэце, што раней Раман не меў заўважных праблемаў са здароўем: займаўся ў агульнай групе па фізкультуры і хадзіў на тайскі бокс.

«Са здароўем у яго былі праблемы: хварэў рэгулярна, яго звычайна дома лячылі, але пра якія-небудзь сур'ёзныя захворванні ў яго я не чула», — паведаміла былая класная кіраўніца Рамана, спадарыня Алена Папкова, якая толькі вярнулася з пахавання.

У аператыўным аддзеле Мінскай гарадской станцыі хуткай дапамогі журналісту «НН» паведамілі, што памагчы хлопцу было не ў іх сілах: «Калі мы туды прыехалі, то толькі зафіксавалі факт клінічнай смерці».

Як стала вядома, афіцыйная прычына смерці — сардэчна-лёгачная недастатковасць. Хлопец хварэў на грып і павінен быў у пятніцу, 18 лютага, паказацца доктару. Магчыма, «спрацавала» перамена надвор'я, якая супала з моцнымі магнітнымі бурамі, — людзі, у якіх ёсць нават невялікія праблемы з сэрцам, моцна адчулі яе. Дадаліся і наступствы грыпу.

На станцыі «Купалаўская», спалучанай з «Кастрычніцкай», ёсць медпункт, у якім працуе дзяжурная медсястра. Чаму яна не падышла адразу? Кіраўніцтва метрапалітэна спасылаецца на тое, што на станцыі знайшліся дактары, а таму дапамога медсястры была б неэфектыўнай.

Дзясяткі аднагрупнікаў Рамана пакінулі свае спачуванні на сайце «Нашай Нівы». «Рома быў добрым чалавекам. Іграў на барабанах у рок-гурце. Гэта быў вельмі светлы чалавек, і нам яго не хапае», — сказала нам яго былая класная кіраўніца.

**Юрась Ускоў, Сямён Печанко**

### З каментаў на nn.by

У нас у групе палова іншагародніх на другім курсе сядзіць на здымных кватэрах, інтэрнат не далі да гэтага часу. Рома адным з такіх студэнтаў быў.

**Студэнт**

Неяк ехаў на электрычцы з Маладзечна да Мінска. Дзядулю ў вагоне таксама стала кепска. Мы паведамілі машыністу, той папрасіў доктара падысці ў наш вагон. Доктарка адшукалася і хуценька прыбегла. Выклікалі і «хуткую». Машыніст паведаміў, што хуткая будзе на прыпынку «Масюкоўшчына» (гэта праз 20—25 хвілін).

Праз нейкі час машыніст паведаміў, што «хуткая» не паспявае і ў Масюкоўшчыну і прыедзе толькі на вакзал. Калі б было штосьці сур'ёзнае, дзеда ўжо не было б у жывых.

**Віктар**

У арміі хлопцаў кормяць, апранаюць, лечаць і нясуць за іх кругласутачную адказнасць. А ў ВНУ малады чалавек прадастаўлены сам сабе, устаў пасля грыпу, сэрца хварае, вось і не вытрымаў.

**оп**

Вы ведаеце, якое ў студэнтаў абслугоўванне ў 33-й паліклініцы? Калі на сваіх нагах прыйшоў, значыць, ніякі ты не хворы. І даведку на спецгрупу хлопцу таксама, хутчэй за ўсё, ніхто не даў, як не далі калісьці мне са зрухам хрыбетнага дыска (!)...

Дарагія мае, турбуйцеся пра сябе і сваіх блізкіх самі, загадзя.

Мая мама ў самую спёку гэтым летам ратавала хлопца 20 гадоў, які паміраў. Да яго людзі не падышлі нават пацікавіцца, у чым справа. У яго таксама было сэрца. Мая мама падняла хай на вуліцы, прыстрашыла адарваць ім усім галаву і напісаць куды трэба, і толькі пасля гэтага «хуткая» пагадзілася адвезці яго... у інфекцыёнку! Хлопца выратавалі, але нялюдскасць і абыякавасць проста рэжа вочы.

**Мар'яна**



Ведаю асабіста яго маму. Да гэтага часу ў шоку. Найглыбейшыя спачуванні родным. А ўсім абыякавым, якія бачылі гэта, але праходзілі міма, — не дай вам Бог апынуцца самім у такой сітуацыі.

**Айвар Рамац**

Рома, мы былі сябрамі шмат гадоў і застанемся імі назаўсёды! Я ніколі цябе не забуду!

**Жэня**

Смуткуем усёй групай... Ромка! Мы цябе не забудзем...

**БНТУ**

Ромачка... Прайшло некалькі дзён, цяжка паверыць, што гэта ўсё праўда. Мы ніколі цябе не забудзем.

**Ю.**

## Здарэнні сцісла

• **Згарэла царква, якую распісваў Пушкін.** Узгаранне царквы ў мястэчку Бобр Крупскага раёна адбылося ў ноч з 16 на 17 студзеня. У царкве выгарала літаральна ўсё: іконы, фрэскі, алтар. Прычыны пажару высвятляюцца. Будаўніцтва царквы ў мястэчку Бобр пачалося ў 1991 годзе. Царква была знакамітая фрэскамі Алеся Пушкіна, на якіх ён выявіў у пекле асобаў, падобных да Аляксандра Лукашэнкі і мітрапаліта Філарэта.

• **Найлепшы рэпарцёр АНТ «развёў» чатыры банкі.** Дзяніс Сухавараў, які заваяваў званне «Найлепшы рэпарцёр 2008 года» на конкурсе «Тэлеваршыня», падазраецца ў буйным махлярстве. Паводле дадзеных міліцыі, ён падаў у банкі недакладныя звесткі і ашуканскім спосабам завалодаў сумай у 11,3 тысячы даляраў і 10 тысяч еўра. Сярод пацярпелых фігуруюць ААТ «БПС-банк», ААТ «Банк Масква—Мінск», ЗАТ «Трастбанк». На АНТ Сухавараў не працуе з 2009 года.

• **У цягніку «Санкт-Пецярбург — Адэса» знайшлі кулямётныя стужкі з патронамі.** Мазырскія мытнікі знялі з поезда кантрабандныя боепрыпасы ў пункце пропуску «Славечна».

• **Патануў чатырохгадовы хлопчык.** У Столінскім раёне малы праваліўся пад лёд. Трагедыя здарылася на штучным вадаёме ў вёсцы Альшаны. Паводле папярэдніх звестак, хлопчык адзін ішоў дадому.

• **Забіў жонку і павесіўся.** У Пінску ва ўласнай кватэры знайшлі мёртвымі 35-гадовую мясцовую жыхарку і яе 61-гадовага мужа. Жанчына мела нажавыя раненні, мужчына вісеў у пятлі. Магчымая прычына трагедыі — рэўнасць.

• **Рэспектабельны махляр «зарабіў» 780 тыс. даляраў на даверы.** Прадпрымальны мінчанін знаёміўся са сваімі ахвярамі на розных курсах і трэнінгах і прапаноўваў заснаваць агульны бізнес. Людзі ўкладвалі ў праекты махляра дзясяткі тысяч даляраў, якія той пераводзіў на рахункі ў банках за мяжой. На сёння вядома, што ад рук махляра пацярпелі 20 чалавек.

• **У Лунінецкім раёне прапалі двое малых дзяцей.** Аднаму дзіцяці восем гадоў, другому — сем. Яны вучацца ў адным класе Цнянскай базавай школы. Зніклі дзеці 18 лютага.

• **Затрымана група злодзеяў, якія займаліся крадзяжом на Кальварыйскіх могілках.** Мяркуецца, што група была датычная да дзевяці крадзяжоў.

• **У Першамайскім раёне Мінска затрыманая група кватэрных злодзеяў.** У яе ўваходзілі трое мужчын ва ўзросце 31—35 гадоў. Двое з затрыманых з'яўляюцца жыхарамі Гомеля, трэці — мінчанін. Каб трапіць у кватэру, злодзеі праварочвалі стрыжань замка ўваходных дзвярэй. Здабычай былі залатыя вырабы, грошы, ноўтбукі, маніторы, лічбавыя фотаапараты.

**СМ**



# Хруцкі і Цаца

Сярод самых важных падзеяў мастацкага жыцця нашае краіны, бясспрэчна, — вяртанне з Парыжа палотнаў Івана Хруцкага ў наш Мастацкі музей.

Больш як паўгода творы Івана Хруцкага экспанаваліся ў Францыі, а таксама Літве і Расеі. 200-я ўгодкі з дня нараджэння мастака сталі адной з памятных дат у спісе ЮНЕСКА. І з гэтай нагоды ў штаб-кватэры гэтай міжнароднае арганізацыі ў Парыжы ў верасні адбылася выстава жывапісу Хруцкага. Шэдэўры беларускага мастацтва мінулых эпохаў мусілі стварыць новы, пазітыўны, еўрапейскі вобраз Беларусі ў вачах заходняй публікі. Ці гэта ўдалося, сказаць ужо цяжка...

## «Мастацтва Беларусі XIX стагоддзя»

А з 9 лютага ў Мастацкім музеі пачала працаваць абноўленая маштабная экспазіцыя «Мастацтва Беларусі XIX стагоддзя». У ліку галоўных экспанатаў выставы — менавіта палотны Івана Хруцкага, што вярнуліся дадому.

## «Думка беларуская»

У Мінскай гарадской мастацкай галерэі Леаніда Шчамялёва тым часам працягвае працу выстава «Думка беларуская» фотамастака Ігара Пашахонова-Міцкевіча.

Гэта не эрзац, не штучны міф «За Беларусь!», а самая сапраўдная наша краіна. Краіна як адчуванне — калі праехацца ўздоўж і папярок па шырокіх яе абшарах — вось што ўбачыць і адчуе глядач на гэтай выставе. «Думка беларуская» ўпершыню прадстаўленая публічна. Гэта нізка фотаздымкаў пра нашага, беларускага чалавека, які ўзяты як модуль, як адзінка вымярэння «штодзённага» беларускага пейзажу, што патрапіў у аб'ектыў.

Характэрныя тыпажы, дэталізаваная фактура іх асяроддзя далёкія ад этнаграфічнага ці сацыялагічнага даследавання. Гэта хутчэй даследаванне метафізічнае. Без гэтых адзінокіх, часцей за ўсё франтальна, амаль нерухома стаячых фігур мы не адчуем голасу краю: непрабіўнай шчыльнасці сцяны, глухой гушчыні быльнягу на старых могілках, амаль хвараблівай пустэчы пакрытай шнарамі зямлі, што нарадзіла гэтыя постаці як дрэвы, і паглыне іх — мы ведаем гэта, — і народзіць новыя з непазбежнасцю. Людзі з'явіліся на гэтых здымках амаль супраць волі аўтара, знянацку сярод пейзажу.

Мы ніколі не былі ў большасці мясцінаў, што на гэтых фатаграфіях. І, можа быць, ніколі не будзем... Але мы пазнаём гэтыя мясціны. І гэтых чужых людзей. Погляд Ігара Пашахонава — погляд з сярэдзіны нашага свету, беларускі погляд на рэчаіснасць.

А як выглядаем мы звонку?

## «Жывыя людзі. Мінск»

— так завецца фотавыстава, што праходзіць гэтымі днямі ў галерэі «Ў». Яе аўтар — славуты крэатыўнік, выбітны адмысловец у рэкламе, чыё імя ведама ў цэлым свеце, — Ігар Ганжа. Перш чым прыйсці ў прафесію, ён быў вайсковым інжынерам-эклектроншчыкам. Сваё першае рэкламнае агенцтва «Пілот Медыя» Ганжа заснаваў у 1994 годзе.

І яно тады месцілася ў маленькім пакойчыку пад лесвіцай і складалася з двух чалавек. А сёння Ігар Ганжа — крэатыўны дырэктар буйной кампаніі. Ён мае багата прызоў з разнастайных рэкламных фэстаў. Гэта Ганжа распрацоўваў рэкламныя кампаніі для Mercedes-Benz, Bosch, Philip Morris, Optima Electrolux ды інш. А тады заняўся для душы фотамастацтвам!

А вось ідэя праекта «Жывыя людзі» нарадзілася ў Ігара Ганжы ў 2009 годзе, а ў красавіку 2010 года творы з праекта «Жывыя людзі» Ганжы сфармавалі выставу на Маскоўскай фотабіенале.

Тады ж выспела ідэя стварыць галерэю партрэтаў культурных герояў Беларусі. «Жывыя людзі» — гэта нізка партрэтаў людзей, якія актыўна ўздзейнічаюць на нашу рэчаіснасць, фармуюць культурны і грамадскі ландшафт вакол сябе, ствараюць тое, што мы прывыклі называць атмасферай.

У разуменні аўтара, «жывыя людзі» прыцягваюць сваімі ідэямі іншых «жывых людзей», але перадусім робяць жыццё вакол сябе жывым. Сярод удзельнікаў праекта «Жывыя людзі. Мінск» вы сустрэнеце Руслана Вашкевіча і Адама Глобуса, Артура Клінава і Валянціна Акудовіча... Цікава пабачыць, якімі бачымся мы звонку вачыма чалавека, не заангажаванага ў нашы справы...

У творах Ганжы няма ідэалізацыі, адрэтушаваных, глянцавых вобразаў. Здымаючы герояў у камфортнай для іх атмасферы, размаўляючы на блізкія і важныя для іх тэмы, аўтар стварае самы жывы партрэт.

## «Цаца ёсць Цаца»

А Музей сучаснага мастацтва прадставіў 15 лютага выставу твораў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва «Цаца ёсць Цаца». З даўніны чалавек ствараў прадметы побыту, адметныя сваімі мастацкімі якасцямі, асабліва прыгажосцю і цеплынёй матэрыялаў. І ў панскіх маёнтках, і ў сялянскіх хатах на Беларусі абагаўлялі хараство, што ў старажытнасці мела сваю багіню, — Цацу. Ад гэтага і сама выстава завецца «Цаца ёсць Цаца», ад усёабдымнага нашага слова — Цаца. Мы добра памятаем з дзяцінства: як толькі нарадзілася немаўля, вусна яму тлумачылі, што сонейка — гэта цаца, кветачка — гэта цаца, птушачка — гэта цаца…

На выставе «Цаца ёсць Цаца» экспануецца сама ідэя харавства, якая адпавядае адчуванню гармоніі з прыродай.

У экспазіцыі прадстаўленыя творы сямі мастакоў: Тамары Васюк, Наталлі Сухаверхавай, Алы Непачаловіч, Максіма Калтыгіна, Алега Ткачова, Вольгі Рэднікінай, Уладзіміра Лісавенкі. Творцы працуюць у адрозных напрамках — у галіне керамікі, габелена і мастацкага ткацтва, але іх погляды аб'ядноўвае супольная ідэя працы са спрадвечнымі матывамі. На гэтую выставу варта схадзіць усёй сям'ёю, з дзецьмі і бацькамі. Каб спрычыніцца да цацачнага харавства.

**Сяргей Харэўскі**

## ІМПРЭЗЫ

### Масленіца

Музей народнай архітэктуры і побыту запрашае на Масленіцу. **27 лютага** — «Сустрэча Масленіцы» і **6 сакавіка** — «Провады Масленіцы». **Святкаванні пачнуцца а 12-й і працягнуцца да 15.30.** Правесці Зіму дапамогуць спевы і карагоды ў выкананні «Грамніц», «Шчодрыцы», «Беларускай песні», «Джамбібума». Асаблівасцю «Сустрэчы Масленіцы» стане паказ масленічнага абраду Любанскага раёна і супольны выраб пудзіла, якае традыцыйна спальвалі ў апошні дзень — Даравальную нядзелю. Музей знаходзіцца **за 4 км ад МКАД за аўтарынкам «Малінаўка» за в. Азярцо**. Праезд ад аўтастанцыі «Паўднёва-Заходняя» прыгараднымі аўтобусамі ў накірунках: Гарадзішча, Дубянцы, калгас Калініна, Заходнія могілкі.

### Свет дзяцінства

**Да 26 лютага ў НВЦ «Белэкспа» (вул.Янкі Купалы, 27)** праходзіць сёмая міжнародная выставакірмаш «Свет дзяцінства». На выставе можна будзе азнаёміцца з сучаснымі распрацоўкамі тавараў і паслуг для дзяцей і будучых мам. У рамках выставы пройдзе фестываль паветраных шароў, а таксама майстар-класы і семінары для бацькоў.

## КАНЦЭРТЫ

### Эл Джэра

**У Філармоніі 4 сакавіка а 19-й** — канцэрт джазавага спевака Эл Джэра.

### Нагуаль

**6 сакавіка ў «Графіці» (зав. Калініна, 16) а 19-й** — канцэрт псіхадэлічнага «Нагуаля».

### Ляпіс Трубяцкой

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» адправіўся ў тур у падтрымку новага альбома «Вясёлыя карцінкі», выхад якога запланаваны на 11 сакавіка. **4 сакавіка** — Магілёў, «Ліга», **13 сакавіка** — Гомель, манеж «Дынама», **1 красавіка** — Мінск, «Рэактар», **2 красавіка** — Мінск, «Рэактар».

### Блюз-фестываль у Мінску

**27 лютага. 16:00.** «Мулен Руж». Вялікі блюз-фестываль. Выступаюць **Cross.B.Band**, **Madera Hard Blues**, **Long Way**, **The Road Dogs**, **«Крама»**. Квіткі: 30 000 — 50 000. Даведкі: (029) 77-999-18, (029) 613-95-06. **Адрас: вул. Кальварыйская, 1.**

### Зміцер Вайцюшкевіч

**8 сакавіка ў ДК МАЗ (пр. Партызанскі, 117а)** — святочны канцэрт Змітра Вайцюшкевіча і WZ-orkiestra. **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### «Каранацыя Міндоўга» ў Мастацкім

**У Мастацкім музеі з 17 лютага да 17 сакавіка** працуе выстава адной карціны. Гэта твор Адомаса Варнаса «Каранацыя Міндоўга», які адлюстроўвае гэтую падзею ў літоўскай інтэрпрэтацыі.

### Строі нацыянальных меншасцяў КНР

**У Гістарычным музеі да 13 сакавіка** працуе выстава «Строі нацыянальных меншасцяў КНР». На выставе прадстаўлена каля 30 строяў, а таксама лялькі ў нацыянальных касцюмах.

### Лядовыя скульптуры Руслана Ярохава

**У Гомельскім парку (паўночнае крыло палаца Румянцавых і Паскевічаў) да 3 сакавіка** працуе выстава лядовых скульптур.

### Народжаныя ў 1920-я

**Да 3 красавіка ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Народжаныя ў 1920-я», на якой можна ўбачыць звыш 40 твораў васьмі вядомых жывапісцаў, народжаных цягам 1916—1926 гг.: Ісаака Бароўскага, Уладзіміра Белавусава, Абрама Вайнштэйна, Мікалая Вальнца, Паўла Пагодзіна ды іншых.

## ТЭАТРЫ

**23 лютага**

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгендзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Горкага** — «Эсфір»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**24 лютага**

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Горкага** — «Бег»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

**25 лютага**

**Горкага** — «Пане Каханку»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Драй Швэстэрн» (для дарослых)
**Горкага** — «Эдып»
**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

**26 лютага**

**Лялек** — «Жахлівы спадар Аў»
**Горкага** — «Зоркі сёмага неба»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Горкага** — «Васа»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

**27 лютага**

**Юнага гледача** — «Бармалей»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Церам-церамок»
**Юнага гледача** — «Бармалей»
**Горкага** — «Панна і смерць»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Вяселле»
**Оперы і балета** — «Карсар»

**28 лютага**

**Купалаўскі** — «Гендэльбах»
**Беларускай драматургіі** — «Загадкавыя варыяцыі»

**5 сакавіка**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

**6 сакавіка**

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

## КІНО

### Вудзі Ален пра незнаёмых

**Ты сустрэнеш таямнічага незнаёмца** (You Will Meet a Tall Dark Stranger)
ЗША — Іспанія, 2010, каляровы, 98 хв.
**Рэжысёр:** Вудзі Ален
**Ролі выконваюць:** Джэма Джонз, Энтані Гопкінз, Наомі Уотс, Джош Бролін, Антоніа Бандэрас, Полін Колінз, Фрэйда Пінта, Люсі Панч
**Жанр:** Іранічная драма
**Адзнака:** 5 (з 10)




Пасля ўцёкаў мужа да прастытуткі Гелену суцяшае гадалка. Адначасова дачка гераіні спрабуе закруціць раман з босам (Бандэрас), ейны муж — з суседкай. А сама гераіня неўзабаве мусіць сустрэцца з «таямнічым незнаёмцам».

Чарговая карціна Вудзі Алена — лёгкая іранічная драма пра ілюзіі і ману. Усе героі ахвотна падманваюцца ды мяняюць сапраўднае на фальшывае. Усе спрачаюцца, замінаюць адзін аднаму, крычаць. Да крыкаў далучаецца Вудзі Ален з закадравым каментаром пра шэкспіраўскую мітусню жыцця.

Вянчае гэтую мітусню балабольства гадалкі, якая і выступае галоўным завадатарам метафізічнага глупства. Пакаранне за глупства Вудзі Ален нам не пакажа, але не прыходзіцца сумнявацца, што яно будзе.

**Андрэй Расінскі**

# Беларусы вярнуліся ў эпоху збіральніцтва

Людзі скупляюць калекцыйныя машынкі, самалёцікі ды камяні.

Ледзь не кожны гараджанін хоць аднойчы пачынаў збіраць калекцыю з пранумараваных пазнавальных часопісаў, якія прадаюцца ў кожным шапіку. «100 чалавек, якія змянілі ходу гісторыі», «Жывёлы нашай планеты», «Цела чалавека»... — выбар ёсць на любы густ. Цяжка ўявіць, што яшчэ пару гадоў таму такіх брашур не было ў продажы. Як калекцыйныя часопісы сталі сапраўднай сацыяльнай з'явай у Беларусі?

### Італьянская мода

Мода на збіральніцтва прыйшла ў нашу краіну з суседняй Расіі з затрымкай у некалькі гадоў. Пачынальніцай ідэі лічыцца Італія. Лагічна, што фактычным манапалістам на рынку пазнавальных часопісаў з'яўляецца італьянскае выдавецтва ДэАгастыні (DeAgostini). Свае першыя мініэнцыклапедыі яно стала выдаваць 50 гадоў таму, а ў 2004 годзе выйшла на расійскамоўны рынак — Расію, Украіну, Беларусь і Казахстан.

### Галоўнае — зацягнуць

Прынцып кожнай серыі аднолькавы. У продажы з'яўляецца першы нумар калекцыі па дэмпінгавым кошце. Напрыклад, дыск з відэападарожжам па Парыжы за 4900 беларускіх рублёў. Ці дзве брашуры пра Пятра I і Тараса Шаўчэнку (рэверанс у бок украінскага рынку) за — смешна сказаць! — 1900 рублёў. А першы том у серыі «Вялікія мастакі» ўвогуле выдаваўся бясплатна пры куплі свежага нумара «Комсомольской правды». Галоўнае — прымусіць людзей купіць танны першы выпуск.

**Во даюць!**
У Расіі прадавалася серыя калекцыйных пёравых асадак па 30 000 рублёў, але не знайшла попыту.

Да другога нумара можна прыкласці (зноў амаль бясплатна) спецыяльную папку для калекцыянавання... А пасля можна ўсталёўваць любую цану і збіраць грошы. Спакуса працягнуць збіральніцтва ох якая вялікая! Свежы нумар выходзіць звычайна раз на тыдзень ці двойчы на месяц. Агульныя выдаткі на адну калекцыю за месяц не перавышаюць 30 тысяч рублёў.

### Прыгоды калекцый у Беларусі

Першай папулярнай серыяй на тэрыторыі Беларусі стала калекцыя з прыгодамі мульцяшнага героя «Скубі-Ду» па ўсім свеце. Дзіцячыя калекцыі пра шахматы і жывёлаў змяніліся агульнасямейнымі — пра здароўе, вядомых людзей ды праваслаўныя манастыры.

Цяпер пачаўся новы эвалюцыйны вíток калекцыянавання — серыі для дзяцей і для дарослых, якія не нагуляліся ў дзяцінстве. Часопісы пра аўталегенды СССР і сусветна вядомыя аўтамабілі, пра самалёты і параснікі... Прычым у камплекце абавязкова ідзе калекцыйная мадэлька ў класічным маштабе 1:43! Пробныя выпускі разышліся на «ўра».

### Адзінкавая Латушкава ідэя

Наша дзяржава спрычыніліся да прапаганды свайго, беларускага, толькі аднойчы. У калекцыйную серыю з 80 альбомаў пра найвыбітнейшых мастакоў сусвету ад расійскай «Комсомольской правды» ўвайшла кніга пра Івана Хруцкага. Гэта была асабістая ініцыятыва міністра культуры Паўла Латушкі. У Расіі гэты том у продаж не трапляў, там месца Хруцкага дасталася пейзажысту Васілю Паленаву.

### Касцюшка як замена Сувораву і латарэйкам

На жаль, ніводнае беларускае выдавецтва — ні дзяржаўнае, ні прыватнае — пакуль не паспрабавала запусціць сваю калекцыйную серыю, звязаную з айчыннай гісторыяй ці культурай. Калі ў кожным шапіку і аддзяленні банка пакупнікам усімі праўдамі і няпраўдамі ўпіхваюць латарэйныя білеты па 4 000 рублёў, то чаму б не прапанаваць на выбар калекцыйны часопіс пра Каліноўскага і Касцюшку за крыху большую цану? А пакуль у беларусаў няма іншага выбару, чым збіраць калекцыю з геройствамі Суворава і Пятра I.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Віталь Несцераў**

# Кухар з Зэльвы выдаў унікальную кнігу традыцыйных рэцэптаў

Аўтар: кніга будзе «самай патрэбнай у вольнай Беларусі».



**Юрый Качук. Моц смаку. Беларуская кухня.** — Беласток: Ортдрук, 2010. — 228 с.

«Моц смаку». Так называецца кніга кухара з Зэльвы Юрыя Качука.

Усе сабраныя рэцэпты, а іх 361, аўтар сам прыгатаваў і пакаштаваў. Большасць з іх суправаджаюць і фотаздымкі.

А дзе фотаапарат не мог перадаць увесь каларыт, ілюстрацыі замянілі на нацюрморты Васіля Шамрука.

«Я даўно займаюся гэтым. Люблю гатаваць, люблю ўразіць чалавека беларускай кухняй, — кажа аўтар. — Калі бачыш рэцэпты ў кнігах кшталту «Кухня народаў СССР», то разумееш, што гэта не беларускія стравы. Антрэкот па-савецку. Спачатку пачаў па бліжэйшых вёсках даведвацца рэцэпты. Пасля далей ад'язджаў».

Сабраныя ў кнізе стравы і напоі — з розных куткоў Беларусі. А найперш з роднай для аўтара Зэльвеншчыны.

Пачынаючы ад знаёмых кожнаму яечні, халадніку да нязвычных для вуха гарадскога жыхара назваў — шупеня, юц. Тут і салаты, і стравы з рыбы, мяса, супы.

Нават для салення сала ёсць свае рэцэпты. А самым эксклюзіўным Юрый называе «бэбах» — страву, якую сустрэў толькі ў сваёй сям'і, і перадаецца яна з пакалення ў пакаленне.

Некаторыя рэцэпты ён узяў з кнігі Л.Завадскай «Кухарка літоўская». Але іх давялося адаптаваць да сённяшняга стала.

Першая кніжка сп. Качука «Традыцыйныя стравы Беласточчыны і Гродзеншчыны» выйшла ў суаўтарстве з Янінай Чыжэўскай у Беластоку. Але вырашыў працягваць.

«Адкрыццё новай стравы значыць для шчасця чалавецтва куды больш, чым адкрыццё новай зоркі».

«Як сказаў французскі кухар Брыя-Саварэн, адкрыццё новай стравы значыць для шчасця чалавецтва куды больш, чым адкрыццё новай зоркі». І называе кнігу «Моц смаку» «самай патрэбнай у вольнай Беларусі».

Ці будзе яшчэ працяг? Аўтар запэўнівае, што будзе. Бо не пазнаёміўся па-сапраўднаму яшчэ з палескай кухняй. Але на гэта пойдзе яшчэ некалькі гадоў. А пакуль сп. Юрый шукае магчымасці выдаць кнігу ў перакладзе на замежныя мовы. Ён лічыць, што найперш адметнасцю кухні можна зацікавіць замежніка нашай краінай і даказаць яе самастойнасць.

**Сяргей Макарэвіч**

# У Рыгу, Баку і Архангельск

Чыгунка арганізуе шэраг новых міжнародных маршрутаў.

Цягнікі пачнуць хадзіць па новых маршрутах з увядзеннем летняга графіка — з 29 мая. Беларускі цягнік пойдзе раз на тыдзень у Архангельск (праз Маскву). Па беларуска-латвійскай ініцыятыве адновяцца чыгуначныя зносіны Мінск — Рыга.

Навінкі чакаюць і тых, хто ездзіць у Літву. Па-першае, запланавана арганізацыя хуткасных цягнікоў Мінск — Вільня. Час у дарозе ў іх скароціцца з чатырох да трох гадзін. Па-другое, плануецца ўвесці дзве пары пасажырскіх дызель-цягнікоў па маршруце Ліда — Вільня.

Маршрут руху цягніка Брэст — Чалябінск запланавана падоўжыць да Караганды. Цягнік будзе курсаваць праз сталіцу Казахстана Астану.

Уводзіцца новы цягнік па маршруце Гродна — Кіеў — Сімферопаль. Плануецца, што ўлетку ён будзе курсаваць да Сімферопаля, а зімой — да Кіева.

Для пасажыраў, зацікаўленых у зносінах з Азербайджанам, плануецца ўвесці беспераспадачны вагон Брэст — Баку. Таксама мяркуецца стварыць вагон Чыта — Мінск.

**Паводле БелаПАН**

# Новы беларускі рэсурс анлайн-браніравання гасцініц Hotel.by

Сістэма ўключае 38 гатэляў у 14 гарадах Беларусі.

Турыстычная кампанія «Вакол свету» запусціла сайт, які дазваляе браніраваць нумары ў беларускіх гатэлях. У базе ўтрымліваецца інфармацыя пра кожны гатэль, прадугледжваецца магчымасць адсартаваць гатэлі па цане, назве і катэгорыі. Ёсць магчымасць аплаты банкаўскай карткай. Цэны ў гатэлях пры браніраванні праз сайт крыху ніжэйшыя, чым пры звычайным разліку.

Напрыклад, самы танны нумар у Мінску каштуе $44. Гэта прапанова ад гатэля «Спадарожнік».

**Паводле БелаПАН**

## Сапраўдная беларуская кухня

### Бэбах

Складнікі: 2 свіныя страўнікі, 0,5 кг свойскай каўбасы, 300 г любівай свініны, 300 г морквы, 300 г цыбулі, 200 г памідораў, 3 зубкі часнаку, прыправы, соль.

Для палівання: 30 г сушаных ці 200 г свежых грыбоў, 200 г смятаны, 100 г таматнай пасты, 2 ст. лыжкі масла, 3 ст. лыжкі мукі, прыправы, соль.

У падрыхтаваны свіны страўнік закласці сырую свойскую каўбасу, кавалачкі любівага свінога мяса, нацёртую моркву, нашаткаваную цыбулю, здробленыя памідоры без скуры, кавалачкі яшчэ аднаго дробна нарэзанага зваранага страўніка, праціснуты часнок, прыправы (толькі не лаўровы ліст!), соль. Страўнік зашыць. Адварыць хвілін 10 у салёнай вадзе. Ваду зліць, зноў заліць салёнай вадой і варыць 5 гадзін. Ваду зліць. На блясе ў печы запякаць бэбах 20—30 хвілін, час ад часу паліваючы тоўчанымі памідорамі з часнаком.

Паліванне: муку падсмажыць да колеру забеленай кавы. Грыбы адварыць у невялікай колькасці вады, дробна нарэзаць і падсмажыць на сметанковым масле, дадаць муку, добра перамяшаць, уліць грыбны адвар, смятану і таматную пасту, пасаліць і дадаць прыправы. Тушыць 5 хвілін. Паліваць нарэзаныя кавалкі бэбаху.

**З кнігі Юрыя Качука «Моц смаку. Беларуская кухня»**

## Прыватныя абвесткі

**СПАЧУВАННІ**

**Памёр Ян Збажына (Савіцкі).** Пасля цяжкай хваробы ў Берасцейскім шпіталі памёр выбітны баранавіцкі паэт Янка Збажына (31 сакавіка 1964 — 10 лютага 2011). Нарадзіўся Янка ў Баранавічах. У 1993 годзе скончыў Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Гісторык, выкладчык сацыяльна-палітычных дысцыплінаў. Правацаў выкладчыкам у баранавіцкіх школах, ВНУ. Адзін з актыўных удзельнікаў беларускага руху 90-х. Пачынальнік скаўцкага руху ў Баранавічах і Беларусі. Удзельнічаў у заснаванні баранавіцкай філіі БАЖ, сябар АГП. Яго творы друкаваліся ў беларускіх літаратурных выданнях («Полымя», «Маладосць», «Бярозка», «ЛіМ», «Ніва», «Дзеяслоў»). У 2004 годзе выдаў кнігу паэзіі і прозы «Пыл саркафагаў».

**МУЗЫКА**

**Шукаю дыск «Беларускія песні і маршы».** Т.: (029) 232-02-97. Мікола.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



**Гульня «Не памыліся»**

Трэба так называць лікі, каб яны: а) дзяліліся на 2; б) не дзяліліся на 2.

2, 4, 6, 8...

3, 5, 7, 9...

**Сабрала Валянціна Карнялюк**



## Росіца. Снежная пілігрымка

**Кожны год у самыя лютыя лютаўскія маразы невялікая вёска Росіца ў Верхнядзвінскім раёне на адзін дзень робіцца месцам паломніцтва каталіцкіх вернікаў. Тут яны ўшаноўваюць памяць ксяндзоў-марыянаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча, якія загінулі разам з жыхарамі ад рук нацыстаў у часе Другой сусветнай.**

**Па традыцыі пілігрымка сканчаецца жалобным крыжовым шляхам да месца гібелі святароў.**

**Усяго падчас росіцкай трагедыі 16—18 лютага 1943 года ў агні загінула 1528 чалавек. Так скончылася карная аперацыя «Зімовы цуд», у якой удзельнічалі 7 латвійскіх батальёнаў, адна ўкраінская і літоўская рота СС. Пасля сарціроўкі людзей звозілі ў калгасную стайню, якую і падпалілі. Ксяндзы Юрый Кашыра і Антоній Ляшчэвіч адмовіліся пакінуць сваіх парафіянаў.**

**У 1999 годзе Папа Ян Павел II абвясціў кс. Юрыя Кашыру і Антонія Ляшчэвіча блаславёнымі.**

**Тэкст і фота Сяргей Гудзілін**



**21 лютага актывісты «Еўрапейскай Беларусі» вывесілі ў Мінску на мосце цераз вуліцу Няміга расцяжку «Свабоду палітвязням». Яна правісела дзве гадзіны.**



**19-20 лютага ў «Сілічах» прайшоў чэмпіянат па сноўбордзе Velcom smart snow challenge. На фота: скача расійскі сноўбардзіст Дзяніс Ганакоў.**



**Шыла на мыла. Віцэ-прэм'ер Сямашка заявіў, што замест іранскага «Саманда» ў Беларусі, магчыма, будуць збіраць кітайскія легкавікі.**


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Якую пасаду займае Наталля Пяткевіч? Старшыня Федэрацыі фрыстайла. У гэтай якасці яна паказалася перад журналістамі на выходных у Раўбічах.**



**У амерыканскіх СМІ актыўна абмяркоўваецца з'яўленне першай лэдзі ЗША Мішэль Абамы на канале NBC у просценькай сукеначцы за 35 даляраў (110 тысяч рублёў). Пасля выхаду перадачы ў эфір у крамах шведскай сеткі H&M у ЗША утварыліся чэргі. Ужо праз суткі сукенкі «жонкі прэзідэнта» былі распрададзеныя.**

## Анекдоты

* * *

Карэспандэнт пытае беларускага турыста, які адмовіўся вяртацца з Егіпта:

— Чаму не вяртаецеся, тут жа небяспечна?!

— Тут — пераварот скончаецца, затое цёпла, пляжы і адпачынак. А дома — зіма, праца і пераварот яшчэ нават не пачынаўся...

* * *

Самая любімая частка прыборкі кватэры — ганяцца за катом з пыласосам.

* * *

Калі вам пазванілі ў дамафон і задалі ідыёцкае пытанне: «Ты дома?» — не раздражняйцеся і спакойна адкажыце: «Так, а ты дзе?»

* * *

Каляіна — гэта мясцовы варыянт дарожнай разметкі.

* * *

Народная прыкмета: калі вы кінулі камень у ваду і не бачыце кругоў, значыць, надышла зіма.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вёска Баркоўка Томскай губерні.** Нашы людзі і ў Сібір перасяліўшыся прытрымліваюцца сваіх звычаяў: на Каляды ладзілі гульні з казой і мядзведзем. І ўсё б добра, каб не надумалі ехаць у суседнюю вёску. Убраўшы чалавека ў свежую яшчэ мядзведжую скуру, прывязалі «мядзведзя» да санак. Як знюхаў конь мядзведзя, дык спудзіўся і папёр з усяе сілы ў поле. Санкі, трапіўшы на пень, падкінуліся, вяроўка абкруцілася аб пень і адарвала чалавеку галаву.

**«НН». № 8. 1911**

**Міліцыя арыштавала Аляксандра Чыгіра, Васіля Быкава і іх сябра Сяргея Каляду па падазрэнні ў продажы скрадзеных аўтадэталяў.** Гучныя прозвішчы адразу прыцягнулі да сябе ўвагу. І ўся прэса напісала пра Быкава як пра пляменніка пісьменніка.

Толькі праз некалькі дзён адвакатка Быкава абвясціла, што ейны падабароны не з'яўляецца сваяком пісьменніка Васіля Быкава.

Васіль, магчыма, выдаваў сябе за сваяка пісьменніка даўно і сам звыкся з думкай, што ён мае дачыненне да Быкава. Найхутчэй, ні Васіль, ні ягоная жонка ніколі не задумваліся, чым імем яны спекулююць.

**«НН». № 8. 2001**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7005.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 22.02.2011.
Замова № 888.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12